


Інфармацыйны грамадзка-аналітычны часапіс Грамадзкага Аб'яднаньня **"Цэнтр Інфармацыйнай Падтрымкі Грамадзкіх Ініцыятываў "Трэці сектар"**. Непэрыядычнае выданьне ў беларускай мове. Распаўсюджваецца **бясплатна**. Наклад нумару − **299** асобнікаў. Выдаецца пры падтрымцы Праграмы TACIS у межах праекту „Павышэньне эфэктыўнасьці дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны". Пры передруку просім рабіць спасылкі на **"Трэці сэктар"**. Рэдактар **Вітаўт Руднік**. Тэхнічны рэдактар **Юры Тарасевіч**. Стыль-рэдактар **Валеры Руселік**. Мастак **Алесь Сураў**. Удзел у працы над нумарам бралі: **Лана Руднік, Андрэй Мялешка, Віталь Нікановіч.** Памнажэньне − Грамадзкае Аб'яднаньне **"Ратуша"**. Наш адрас: **А/С 54, 230009 Гродна, Беларусь.** Тэлефон/факс: **+375 (152) 96-74-78.** Internet: **sektar@iname.com, http://sektar.cjb.net**

**Зьмест нумару**

У чаканьні Рэнэсансу · · · · · · · · · · · 1
"Трэба часьцей сустракацца!" · · · · · · · 2
Рэзалюцыя Форуму мясцовых маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў і ініцыятываў Беларусі · · · · · · · · · · · · · · · · · 3
Вынікі апытаньня ўдзельнікаў Форуму мясцовых маладзёвых аб'яднаньняў і ініцыятываў Беларусі · · · · · · · · · · · · · · 4
Дарогу маладым гісторыкам · · · · · · · 4
Чым мы адметныя · · · · · · · · · · · · 5
CIVICUS дасьледуе грамадзянскую супольнасьць у Беларусі · · · · · · · · · · · · 6
Стан развіцьця падсэктараў грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі · · · · · · · · · 6
Беларускі «дыямэнт» · · · · · · · · · · 11
Ліст у падтрымку гарадзенскіх журналістаў · · · · · · · · · · · · · · · · · · · 14
Нашыя газэты лепшыя · · · · · · · · · · 14
· · · · · · · · · · · · · · · · · · · · 15
Узнагароды гарадзенскім журналістам · 15
Інтэрнэт-рэсурсы трэцяга сэктару Гарадзеншчыны · · · · · · · · · · · · · · · · 16
Ігар Кузьмініч: "Цёплая, дзіўная, небясьпечная... Афрыка!" · · · · · · · · · · · · · 17
"Ад сэрца да сэрца" · · · · · · · · · · · 18
Лепей ствараць будучыню сёньня, чым рэагаваць на рэчаіснасьць · · · · · · · · · 19
Вострыя куты сямейнага жыцьця · · · · 20
Новы погляд на Стары Сьвет · · · · · · · 21
Саша Буйко: "Мая свабода сканчаецца там..." 23
Акт добрай волі · · · · · · · · · · · · · 25
Праграма TACIC па партнэрству і інстытуцыянальным разьвіцьці · · · · · · · · · · · 27



**Новая генэрацыя маладзёвага руху Гарадзеншчыны у час супольнага трэнінгу грамадзкіх аб'яднаньняў "Цэнтар "Трэці сектар" і "Віт" па тэме "Стратэгічнае плянаваньне" (сьнежань, 2001). На здымку: Алена Маляўская (Клюб "Скрыжаваньне", Наваградак, Ігар Макараў ("Маладая Грамада", Масты), Аляксандар Пашкевіч ("Тынэйджар", Ашмяны), Андрэй Шадура ("Віленскі тракт", Астравец).**

# У чаканьні Рэнэсансу

**Гляджу на сьпіс гарадзенскіх маладзёвых арганізацыяў, датаваны 1998-м годам. Слонімскі "Зялёны гай", гарадзенскія "Маладзёвы прэс-клюб", "Маладзёвы фотаклюб", "Экасьвет", Хрысьціянска-дэмакратычны зьвяз моладзі, Харугва скаўтаў імя Давыда Гарадзенскага, Фонд сацыяльнай падтрымкі студэнтаў і маладых спэцыялістаў...Здаецца, яшчэ нядаўна ў кожнай з гэтых арганізацыяў былі людзі, цікавыя праекты, амбітныя задумы. Сёньня ж засталіся толькі назвы.**

Па вялікім рахунку, з гарадзенскіх маладзёвых арганізацыяў, якія паўсталі ў сярэдзіне 90-х г.г., на гэты момант засталіся толькі тры: "Віт", "Маладая Грамада" ды лідзкая YMCA (Хрысьціянскае сяброўства дарослых і моладзі). Разам з тым, сытуацыя не выглядае ўжо занадта пэсымістычнай. Больш таго, асабіста ў мяне ў мінулым годзе зьявіліся падставы для стрыманага аптымізму.

У Смаргоні побач з Асацыяцыяй маладых хрысьціянскіх жанчын актыўна запрацаваў БАМП (аб'яднаньне маладых палітыкаў). У Ашмянах "раскруціўся" "Тынэйджар". У Астраўцы фармуецца "Віленскі тракт". Там жа, у Нальшанскім краі (Астравеччына, Смаргоншчына, Ашмяншчына), нарадзіўся Рэгіянальны маладзёвы парлямант. У Мастах актыўна разьвіваецца "Маладая Грамада", ня сьпіць у шапку тамтэйшы Малады фронт. У Наваградку набірае моц маладзёвы клюб "Скрыжаваньне". Нягледзячы на клопаты з рэгістрацыяй, трымаецца й жыве творчымі плянамі гарадзенскі "Краявід". Афіцыйны статус набылі гарадзенскія клюбы ЮНЭСКА. Насуперак прагнозам, ня адышлі ў нябыт "зубры", якія альбо ператворацца ў шэраг фармальных арганізацыяў, альбо захаваюць досыць устойлівую нефармальную структуру.

Калі ўлады ня будуць працягваць палітыку звужваньня магчымасьцяў для легальнай дзейнасьці НГА, праз год-два можна будзе казаць пра Рэнэсанс маладзёвага руху на Гарадзеншчыне.

Ну а сёньняшняй сытуацыі ў гэтым руху прысьвечаная значная частка матэрыялаў гэтага нумару. Чытайце, знаёмцеся, спрачайцеся!

*27-28 сьнежня ў Гародні адбыўся Форум мясцовых маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў і ініцыятываў Беларусі.*

# "Трэба часьцей сустракацца!"

**Каля 30 прадстаўнікоў маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў з усіх вобласьцяў Беларусі сустрэліся, каб ня толькі падзяліцца досьведам, але й высьветліць праблемы, што паўстаюць падчас дзейнасьці той ці іншай арганізацыі, а таксама магчымыя шляхі іх разьвязаньня.**




За мэту працы Форуму арганізатары праекту - Беларускі зьвяз маладзёвых і дзіцячых грамадзкіх аб'яднаньняў "Рада" й Гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне маладых навукоўцаў "ВІТ" - вызначылі выпрацоўку стратэгіі адстойваньня інтарэсаў мясцовых арганізацыяў на нацыянальным і міжнародным ўзроўні, а таксама абмеркаваньне праблем і пэрспэктываў супрацоўніцтва паміж мясцовымі маладзёвымі грамадзкімі аб'яднаньнямі Беларусі.

### "Мы сёньня"

Першага дня адбылося ўрачыстае адкрыцьцё Форуму, на якім арганізатарамі была дакладна акрэсьленая мэта і праграма сустрэчы, адбыліся выступы гасьцей і ўдзельнікаў. Сярод апошніх былі прадстаўлены гэткія маладзёвыя аб'яднаньні і ініцыятывы, як "Краявід" і "Сфэра"(Гародня), "Крам" (Коханава), "Ветразь" (Слонім), "Фокус-група" і "Фіяльта" (Менск), "Гарт" (Гомель), "Верас" (Віцебск) і інш. (ўсяго каля 20 арганізацыяў і ініцыятываў).

Сустрэча працягнулася за круглым сталом, падчас якога адбылася прэзэнтацыя галоўных дасягненьняў прысутных арганізацыяў на мясцовым ўзроўні за мінулы год. Імі ж былі вызначаныя й цяжкасьці ў сваёй дзейнасьці.

Галоўнымі праблемамі, як высьветлілася, зьяўляюцца:

1. адсутнасьць стратэгічных плянаў;

2. непаразуменьне зь дзяржструктурамі;

3. слабая матэрыяльна-тэхнічная база;

4. маруднае разьвіцьцё сувязяў зь іншымі грамадзкімі аб'яднаньнямі і міжнароднага супрацоўніцтва;

5. несприяльныя ўмовы для адстойваньня інтарэсаў на рэспубліканскім ўзроўні.

На пытаньне: "Як вы ацэньваеце сытуацыю з маладзёвымі арганізацыямі ў Беларусі на сеньняшні дзень?" - адказы разышліся ў супрацьлеглыя напрамкі. Адной з тых, хто мае пэсымістычныя погляды на далейшае разьвіцьцё трэцяга сэктару ў краіне, была... арганізатарка Форуму, прадстаўніца "Рады" Ірына Белая. Яна акрэсьліла сытуацыю як крытычную, матывуючы гэта недахопам устойлівага фінансаваньня.

-"Кожнай грамадзкай арганізацыі, - кажа Ірына, - трэба ўтрымліваць офіс і штат, які б займаўся бугальтэрыяй і іншымі справамі. Калі няма ўстойлівага фінансаваньня - арганізацыя можа страціць свой юрыдычны статус.

Другі, ня менш важкі, момант - гэта чалавечыя рэсурсы. Усё менш маладых людзей уваходзіць у якія-кольвек арганізацыі, бо не турбуюцца за будучыню сваю і сваёй краіны. Усё гэта агулам даводзіць сытуацыю да крытычнай рыскі. Таму, галоўная задача "Рады" - размаўляць з фондамі, каб яны, хаця б часткова, бралі на сябе фінансаваньне маладзёвых арганізацыяў дзеля заахвочваньня моладзі і давалі ей магчымасьць рэалізаваць свае ідэі. Для гэтага мы павінны скіраваць усе свае сілы, рэсурсы й намаганьні на высьвятленьне тых праблемных момантаў, што ўзьдзейнічаюць на разьвіцьцё маладзёвых арганізацыяў, каб ведаць, што зьмяняць. Безумоўна, Форум дапаможа нам убачыць гэткія моманты, і , зыходзячы з гэтага, варта паспрабаваць іх разьвязаць."

Былі, аднак, і тыя, хто лічыць: "Усё яшчэ ня гэтак кепска!". Можа, разьлічваючы на тое, што ў наступным годзе нешта зьменіцца...

### "Што далей..."

У першы дзень сустрэчы былі сфармаваныя малыя групы, якія на працягу другой паловы гэнага ж дня й раніцы наступнага працавалі над спосабамі разьвязаньня асноўных праблем дзейнасьці мясцовых маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў. У другі дзень кожная з груп прадэманстравала вынікі плённай працы: разьвязкі, прапановы, карэктывы. Літаральна ўсе пагадзіліся з тым, што трэба стварыць адмысловую працоўную групу з прадстаўнікоў усіх зацікаўленых арганізацыяў з мэтай выпрацоўкі і рэалізацыі агульных спосабаў разьвязаньня канкрэтных пытаньняў і праблем, а таксама дзеля каардынацыі ўсіх наступных дзеяньняў. Была прынятая рэзалюцыя, у якой былі дакладна вызначаныя найбольш актуальныя пытаньні, што патрабуюць неадкладнага разьвязаньня.

Досыць аб'ектыўны адказ на пытаньне аб сытуацыі з маладзёвым грамадзкім сэктарам у рэспубліцы я атрымала, зазірнуўшы ў прэамбулу рэзалюцыі, у якой і былі заключаныя сутнасьць і галоўная прычына правядзеньня Форуму: "На сёньняшні дзень, той значны патэнцыял, які беларускае грамадзтва мае ў выглядзе мясцовых маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў, не знаходзіць належнаё прасторы для эфэктыўнай рэалізацыі". І з гэтым пагадзіліся ўсе. Але, як сказаў у заключнай прамове сябра аргкамітэту Форуму Аляксей Мацэвіла, "ніхто нічога ня зробіць для арганізацыяў, акрамя іх самых".

На думку арганізатараў і ўдзельнікаў, мэта Форуму была дасягнутая. "Год сыходзіць з пачуцьцём, што, нарэшце, пачнуцца зьмены", – сказаў Сяргей Салей, старшыня праўленьня ГА "Віт". З гэткім аптымістычным настроем большасьць удзельнікаў сустрэчы і разьяжджалася.

І ўсе пагадзіліся, што трэба часьцей праводзіць падобнага кшталту сустрэчы, каб трымаць руку на пульсе грамадзкай дзейнасьці арганізацыяў па ўсей Беларусі. Узаемадапамога, аб'яднаньне сіл і рэсурсаў - толькі так можна дасягнуць заплянаваных вынікаў. А створаная працоўная група - першы крок да посьпеху.

Адзін вельмі разумны чалавек калісьці сказаў: "Адна рука мые другую, а разам - твар."

**Ірына Сіманава,**
**удзельніца праекту грамадзкага аб'яднаньня "Цэнтар "Трэці сектар" "Маладзёвае інфармацыйнае агенцтва"**



**Удзельнікі Форуму мелі багата падставаў для дыскусіяў.**

## Рэзалюцыя Форуму мясцовых маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў і ініцыятываў Беларусі

**Мы, удзельнікі Форуму мясцовых маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў і ініцыятываў Беларусі, канстатуем, што на сёньняшні дзень той значны патэнцыял, які беларускае грамадства мае ў асобе мясцовых маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў, не знаходзіць належнае прасторы для эфэктыўнай рэалізацыі. Гэтая сытуацыя вымагае ад нас неадкладных супольных дзеяньняў па разьвязаньні наступных пытаньняў:**

- выпрацоўка стратэгіі ўстойлівага разьвіцця маладзёвага грамадзкага сэктару ў Рэспубліцы Беларусь, скіраванай па кадравае, матэрыяльнае, інфармацыйнае і адукацыйнае забесьпячэньне эфэктыўнай дзейнасьці мясцовых маладзёвых аб'яднаньняў;
- выпрацоўка стратэгіі ўзаемадачыненьняў паміж дзяржаўным і грамадзкім сэктарам у Рэспубліцы Беларусь з улікам ролі і прапановаў мясцовых маладзёвых аб'яднаньняў;
- выпрацоўка канкрэтных прапановаў па удасканаленьні і, пры магчымасьці, спрашчэньні нарматыўна-прававых актаў, якія рэгулююць парадак рэгістрацыі і ажыцьцяўленьня статутнай дзейнасьці мясцовымі маладзёвымі грамадзкімі аб'яднаньнямі, а таксама ўмовы атрыманьня імі фінансавай падтрымкі;
- стварэньне мэханізму прадстаўніцтва інтарэсаў мясцовых маладзёвых грамадзкіх аб'яднаньняў Рэспублікі Беларусь на рэспубліканскім і міжнародным узроўні;
- уплыў на спонсарскія структуры дзеля выпрацоўкі ў іх агульнай стратэгіі супрацоўніцтва з маладзёвым грамадзкім сэктарам Рэспублікі Беларусь, грунтуючыся на мясцовай спэцыфіцы й патрэбах, а таксама на роўным і аб'ектыўным стаўленьні да ўсіх суб'ектаў маладзёвага руху.

Дзеля каардынацыі нашых дзеяньняў па разьвязаньні узгаданых вышэй праблем мы пастанавілі:

1. Стварыць з зацікаўленых удзельнікаў Форуму адмысловую працоўную групу, запрасіць усе зацікаўленыя арганізацыі далучыцца да яе дзейнасьці альбо да супрацоўніцтва зь ёй.

2. Паведаміць маладзёвым арганізацыям, дзяржаўным ворганам, спонсарскім структурам і грамадзкасьці пра праблемы, узьнятыя на Форуме, і прапанаваныя шляхі іх разьвязаньня ў выглядзе адмысловых зваротаў. Падрыхтоўку зваротаў даручыць працоўнай групе.

**Гародня,**
**28 сьнежня 2001 г.**

# Дарогу маладым гісторыкам

**Із студзеня 2002 году пачала дзейнічаць "Школа ўдасканаленьня маладых гісторыкаў". Гэты праект ГА "ВІТ" накіраваны на павышэньне кваліфікацыі маладых навукоўцаў, якія займаюцца гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага.**

На сёньняшні дзень маладому гісторыку даволі складана існаваць у прасторы, дзе адсутнічае гістарычная пераемнасьць й не хапае магчымасьцяў для ўласнага ўдасканаленьня ды атрыманьня інфармацыі пра новыя мэтады і тэхналёгіі дасьледаваньня ў сьветавай навуцы. Дадзены праект зьяўляецца спробай зьмяніць існую сытуацыю праз правядзеньне цыклю з трох практычных працоўных сустрэч па гэткіх базавых для дасьледніка курсах як крыніцазнаўства, мэтадалёгія і мэтады дасьледаваньня, а таксама гістарычная інфарматыка.

25-27 студзеня адбыўся першы сэмінар "Школы ўдасканаленьня маладых гісторыкаў". Ён быў прысьвечаны "Крыніцам па гісторыі ВКЛ". Да ўдзелу ў праекце былі запрошаныя айчынныя й замежныя спэцыялісты: Янош Бак (Цэнтральны эўрапейскі ўнівэрсытэт у Будапэшце), Георгі Галенчанка (Істытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі), Галіна Дзербіна (Нацыянальны навуковы асьветніцкі цэнтар імя Ф.Скарыны), Зьміцер Яцкевіч (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі), Аляксандар Краўцэвіч (Гарадзенскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя Я.Купалы), Алесь Груша (Істытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі). Слухачамі школы сталі маладыя гісторыкі зь Менску, Полацку й Гародні.

Наступныя сэмінары плянуецца правесьці 22-24 лютага і 22-24 сакавіка 2002г. Каардынатары праекта - Наталя Сьлік, Сяргей Салей.

**"ВІТ-інфарм"**



## Вынікі апытаньня ўдзельнікаў Форуму мясцовых маладзёвых аб'яднаньняў і ініцыятываў Беларусі

**1 На Вашую думку, наколькі Вашая арганізацыя праінфармаваная аб дзейнасьці іншых мясцовых маладзёвых аб'яднаньняў?**

- 70,8% - атрымліваем такую інфармацыю, але недастаткова;
- 20,8% - атрымліваем шмат такой інфармацыі;
- 8,3% - атрымліваем няшмат інфармацыі, але для нашай дзейнасьці больш і ня трэба.

**2 На Вашую думку, наколькі Вашая арганізацыя праінфармаваная аб падзеях у маладзёвым руху на ўзроўні рэспублікі?**

- 58,3% - атрымліваем такую інфармацыю, але недастаткова;
- 20,8% - атрымліваем шмат такой інфармацыі;
- 12,5 - атрымліваем няшмат інфармацыі, але для нашай дзейнасьці больш і ня трэба;
- 8,3% - не атрымліваем такой інфармацыі.

**3 На Вашую думку, наколькі Вашая арганізацыя праінфармаваная аб існай нарматыўна-прававой базе ў галіне маладзёвай палітыкі?**

- 41,7% - ведаем і скарыстоўваем пры неабходнасьці;
- 29,2% - ведаем, але ніяк гэта не выкарыстоўваем;
- 29,2% - ня ведаем, але лічым патрэбным ведаць.

**4 Ці спрабавала Вашая арганізацыя ўзаемадзейнічаць па пытаньнях сваёй дзейнасьці зь дзяржструктурамі?**

- 41,7% - спрабавала і часьцей сустракала ўзаемаразуменьне;
- 41,7% - спрабавала, але рэдка знаходзіла ўзаемаразуменьне;
- 12,5% - не спрабавала, але гатовая гэта рабіць;
- 4,2% - спрабавала, але не знаходзіла ўзаемаразуменьня.

**5 Ці мае Вашая арганізацыя досьвед сумесных дзеяньняў зь іншымі маладзёвымі аб'яднаньнямі Вашага рэгіёну?**

- 66,7% - маем досьвед, як станоўчы, так і адмоўны;
- 37,5% - маем досьвед, і ён заўсёды быў станоўчы.

**6 Які накірунак сумесных дзеяньняў зь іншымі мясцовымі маладзёвымі аб'яднаньнямі Вы лічыце найбольш важным для Вашай арганізацыі?**

- 29,2% - абарону агульных інтарэсаў у стасунках зь дзяржструктурамі;
- 25% - прадстаўніцтва агульных інтарэсаў на рэспубліканскім узроўні;
- 16,7% - правядзеньне сумесных праектаў;
- 4,2% - прадстаўніцтва агульных інтарэсаў на міжнародным узроўні.

**7 Якая мадэль прадстаўніцтва агульных інтарэсаў мясцовых маладзёвых аб'яднаньняў на рэспубліканскім узроўні падаецца Вам больш эфэктыўнай?**

- 62,5% - стварэньне рэгіянальных зьвязаў мясцовых аб'яднаньняў;
- 20,8% - непасрэднае сяброўства мясцовых аб'яднаньняў у нацыянальнай парасонікавай структуры ("РАДА");
- 12,5% - стварэньне асобнай нацыянальнай парасонікавай структуры, якая б задзіночвала выключна мясцовыя аб'яднаньні.







# Чым мы адметныя

**Героямі традыцыйнага апытаньня "Трэцяга сэктару" сталі гэтым разам прадстаўнікі розных маладзёвых арганізацыяў Гарадзеншчыны. Кожнаму зь іх мы задалі два пытаньні:**

**1 Якія патрэбы моладзі задавальняе вашая арганізацыя і якім чынам?**

**2 Нашая арганізацыя адметная....**



**Анатоль Мікішоў (Смаргонь, прадстаўнік працоўнай групы Рэгіянальнага парляманту)**

1. Прадстаўленьне моладзі магчымасьці вызначаць свой лёс самым, самарэалізавацца, магчымасьці праявіць сябе ў асобных накірунках, да прыкладу, у журналістыцы, працы на камп'ютары.

2. Па-першае, нашая арганізацыя была створаная пастановай Рады: гэта патрэбна ня толькі нам.

Па-другое, калі мы гэта зробім, то любы малады чалавек альбо дзяўчына можа далучыцца да актыўнага жыцьця.



**Аляксандар Драчук (праграмны сакратар нацыянальнага бюро Хрысьціянскай садружнасьці дарослых і маладых)**

1. Асноўная мэта арганізацыі — усебаковае, гарманічнае разьвіцьцё чалавека. Арганізацыя рэспубліканская, але *пакуль што дзейнічае толькі ў 5 гара*дох Беларусі: Бабруйск, Віцебск, Валожын, Ліда й Менск. Зараз працуюць дзьве найбуйнейшыя праграмы YMCA. Першая, скаўтынг — не патрабуе тлумачэньняў. Тэнсынг – праграма, якая існуе толькі ў YMCA. Праграма зьбірае таленавітых маладых людзей і моладзь, якая можа сябе паспрабаваць у танцах, бэндзе, драме, хоры, міні-лідэрскіх групах. Яднае іх канцэрт.

Адна з найбуйнейшых праграм, якія праводзяцца на рэспубліканскім узроўні, — гэта Школа Лідараў. Дзейнічае ўжо трэці год, разьлічаная на лідараў праграм, іх выхаваньне і адукацыю. У нас дзейнічаюць таксама шмат малых праграм, такіх, як авіямадэльны гурток, дэкаратыўнае мастацтва, курсы ангельскай мовы.

2. Непаўторнасьць нашае арганізацыі ўва ўсім сьвеце ў тым, што яна нічога не навязвае, але прымае й падтрымлівае ініцыятывы. Прыходзяць людзі з ідэямі і гатоўнасьцю працаваць, а арганізацыя прадстаўляе ім умовы. Другі бок, YMCA — міжнарод*ная арганізацыя. Больш* 120 краін і 30 мільёнаў чалавек уцягнутых у праграмы. Адсюль - бясконцыя магчымасьці для сяброў ХСДМ у Беларусі па разьвіцьці міжнародных кантактаў.



**Сяргей Кузьняцоў (старшыня Гарадзенскай маладзёвай краязнаўчай ініцыятывы "Краявід")**

1. Можна сказаць, што гэтыя патрэбы мы самыя ствараем. На жаль, праблемы гісторыі, краязнаўства, культуры, сучасную моладзь амаль не цікавяць. Нашая арганізацыя бачыць сваёй місіяй стварыць у моладзі зацікаўленасьць і патрэбу ў веданьні свайго рэгіёну. Тады й Ермаловіча захочацца прачытаць і ў вёску зьезьдзіць ня толькі, каб пагуляць і пакупацца...

2. У нашай арганізацыі кожны робіць тую справу, якая яму цікавая. Фармулёўкі кшталту "трэба для справы" амаль адсутнічаюць.

**Алесь Царук (Старшыня Рады маладзёвага эколяга-краязнаўчага клюбу "Скрыжаваньне").**

1. Калі моладзь да нас прыходзіць, мы даём магчымасьць ім рэалізаваць сябе. Калі ёсьць ініцыятывы, то мы дапамагаем іх рэалізаваць, а ў іх ёсьць ініцыятывы. Апошняй ініцыятывай было стварэньне дзіцяча-турысцкага клюбу "Экстрымальнае выжываньне". Моладзь, якая піша вершы, хоча стварыць зборнік, які будзе пэрыядычна выходзіць. А таксама выдаем часапіс "Жаваранак".

2. Калі казаць пра краязнаўства, то мы займаемся беларускай шляхтай, бібліятэкай Храптовіча. Яшчэ адметнасьць у тым, што мы часта вандруем па Навагрудчыне.



**Сьвятлана Нех (намесьніца старшыні гарадзенскай "Маладой грамады")**

1. Для нас галоўнае - дапамагчы раскрыцца кожнаму чалавеку рэалізаваць сябе.

Праводзім для ўсіх ахвотных кампутарныя курсы, інтэрнэт-трэнінгі, заняткі па ангельскай і польскай мовах. Самыя арганізоўваем і дапамагаем іншым у арганізацыі кіслотных вечарын, дыскатэк. Улетку праводзім археалягічныя, экалягічныя летнікі на тэрыторыі Гарадзенскай вобласьці. Акрамя гэтага, прыбіраем смецьце, робім горад чысьцейшым. Выдаем свой уласны інфармацыйных бюлетэнь для моладзі, дапамагаем у выданьні школьных, студэнцкіх газэтак.

2. *Я спытаў у чалавека//Які прайшоў агонь, ваду і медныя трубы//Што самае цяжкае ў гэтым Свеце?//ён адказаў: "Прайсці праз Вернасьць..." (М. Танк.)*

Маладая Грамада ад першага дня заснаваньня выдзялялася сярод іншых арганізацый сваёй прынцыповасьцю. Галоўнае - гэта сацыял-дэмакратычныя прынцыпы і агульначалавечыя каштоўнасьці. Веру ў тое, што мы й надалей застанемся шчырымі й вернымі свайму слову, прынцыпам. І гэта дапаможа зрабіць у будучыні тое, што зараз лічыцца немагчымым і недасягальным.

**Падрыхтавала Лана Руднік**

# CIVICUS дасьледуе грамадзянскую супольнасьць у Беларусі

**Індэкс разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі быў дасьледаваны ў мінулым годзе Ўсясьветным Альянсам для грамадзянскага ўдзелу. Адным зь мясцовых партнэраў у межах гэтага дасьледаваньня была нашая арганізацыя, а ў якасьці экспэртаў выступалі прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны рознай скіраванасьці. Сёньня мы знаёмім вас зь некаторымі вынікамі праведзенай працы.**

СТРУКТУРА. Наколькі вялікі і актыўны грамадзкі сэктар у краіне? Якія яго складнкі, як яны паміж сабой ўзаемадзейнічаюць? Якімі рэсурсамі валодае грамадзкі сэктар краіны?

УМОВЫ. У якой ступені прававые, палітычныя і сацыяльна-культурныя ўмовы, у якіх функцыянуе грамадзкі сэктар, спрыяюць яго разьвіцьцю? Як грамадзкі сэктар узаемадзейнічае зь дзяржавай, сфэрай бізнэсу, міжнароднымі донарамі?

КАШТОЎНАСЬЦІ. Якія каштоўнасьці, нормы і стасункі прадстаўляе і прапагандуе грамадзкі сэктар? Наколькі трэці сэктар адкрыты для ўсіх? У якіх яго сфэрах знойдзены кансэнсус, дзе існуюць разыходжаньні?

УПЛЫЎ. Які рэальны ўнёсак грамадзкіх арганізацыяў у разьвязаньне канкрэтных сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем? Які іх уплыў на грамадзкія працэсы?

Адной з галоўных мэт дасьледаваньня, якое праводзілася ў розных краінах, было пашырэньне ведаў і паглыбленьне разуменьня праблем разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці праз ацэнку на аснове міжнародных стандартаў сілы, здароўя і ўплыву грамадзкага сэктару.

Міжнародная арганізацыя CIVICUS, якая праводзіла дасьледаваньне, базавалася на досьведзе папярэдняй працы. Яшчэ ў 1997 годзе быў дасьледаваны індэкс разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці ўва ўсім сьвеце й выдадзены «Новы атляс грамадзянскай супольнасьці». Гэткая ж праца працягвалася і ў наступныя гады праз міжнародную сетку ўдзельнікаў і партнэраў CIVICUS.

Для Індэксу разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці выкарыстоўваецца мэтодыка "Дыямэнт". Стан грамадзянскай супольнасьці дасьледуецца па чатырох асноўных парамэтрах: структура, умовы, каштоўнасьці і ўплыў. Графічная выява гэтых парамэтраў можа быць прадстаўленая ў форме дыямэнту.

Для кожнага з гэтых парамэтраў існуюць распрацаваныя індыкатары.

**Index Coordination Office:**
**Ringelstrasse 26**
**60385 Frankfurt, Germany**
**Phone: +49 69 48008977**
**Fax: +49 69 4800 8978**
**Web: www.civicus.org**

# Стан разьвіцьця падсэктараў грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі

*У табліцы пазначаныя лічбы, якія перавышаюць 2,5 балы, г.зн. тыя, якія сьведчаць пра існаваньне праблем па тым альбо іншым пытаньні ў падсэктары альбо ў грамадзянскім сэктары. Лічбы ад 3.5 балу й вышэй - падкрэсьленыя і сьведчаць пра наяўнасьць сур'ёзных праблем. Г.зн., ужываецца 5-бальная шкала, і, чым ніжэйшы бал, тым лепш.*

| | Адукацыя | Моладзь | Сацыяльная абарона | Этнічны | Бізнэс | Культура | Жанчыны | Праваборончы | Экалягічны | Міжнародны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I. Структура падсэктароў грамадзянскай супольнасьці (агульны бал - 2,68; індэкс - 55,17%) | | | | | | | | | | | |
| 1. Арганізацыі аб'ядноўваюць значную колькасьць актыўных сяброў | - | - | - | - | - | - | - | - | 3,08 | - | - |
| 2. Арганізацыі роўна разьмеркаваныя па ўсіх рэгіёнах краіны | 3,19 | 3,71 | - | 2,56 | 3,38 | - | 2,58 | 3,44 | 3,69 | 4 | 3,07 |
| 3. Арганізацыі прадстаўленыя нават у самых аддаленых раёнах краіны | 3,74 | 3,88 | 3 | 2,69 | 3,27 | 2,77 | 2,52 | 3,78 | 3,82 | 4,6 | 3,28 |
| 4. Існуе ня менш за адну сеткавую альбо парасонікавую арганізацыю, якая прадстаўляе інтарэсы ўсіх арганізацыяў, што ў яе ўваходзяць, і якую частку арганізацыяў сэктару яна аб'ядноўвае | 4,89 | 3,64 | 4,29 | 2,88 | 3,17 | 3,21 | 4 | 4,44 | 4,69 | 4,5 | 4,01 |
| 5. Гэтая парасонікавая арганізацыя (альбо арганізацыі - калі іх некалькі) стымулююць іншыя арганізацыі да актыўнага ўдзелу ў яе працы | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 6. Гэтая парасонікавая арганізацыя (альбо арганізацыі — калі іх некалькі) спрые рэалізацыі агульных інтарэсаў вашага сэктару | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 7. Рэсурсные цэнтры задавальняюць патрэбы і запыты грамадзкіх арганізацыяў | 2,67 | 3,36 | 2,71 | | 2,57 | 3,36 | 2,83 | 2,67 | - | 3,25 | 2,79 |
| 8. Арганізацыі не супрацоўнічаюць паміж сабой па пытаньнях, якія прадстаўляюць для іх агульны інтарэс, за-за ўласных канфліктаў (супрацоўніцтва) | 2,79 | - | 3,48 | | - | - | 3,14 | 3,11 | - | 3,2 | 2,68 |
| 9. Арганізацыі аб'ядноўваюцца альбо ствараюць зьвязы з арганізацыямі зь іншых грамадзкіх сфэр дзеля рэалізацыі агульных інтарэсаў грамадзянаў | 2,62 | 2,8 | - | - | - | - | - | - | - | 3,25 | - |
| 10. Арганізацыі шчыльна ўзаемадзейнічаюць зь мясцовымі рэгіянальнымі арганізацыямі | 2,79 | 3,29 | - | - | - | - | - | - | 2,62 | 3,2 | - |
| 11. Арганізацыі супрацоўнічаюць з бізнэс-сэктарам | 3,58 | 4 | 2,9 | 3,07 | - | 3 | 2,74 | 3,44 | 3,91 | 4,4 | 3,19 |
| 12. Арганізацыі кантактуюць з прадстаўнікамі палітычных партыяў для прасоўваньня сваіх інтарэсаў у грамадзкай сфэры | 2,97 | 3,53 | 2,57 | 3,8 | 3,5 | 3,43 | 2,9 | - | 3,77 | 3,6 | 3,19 |
| 13. Арганізацыі актыўна выкарыстоўваюць негвалтоўныя мэтады (дэманстрацыі, пікеты, байкоты і г.д.) для выказваньня сваіх інтарэсаў у грамадзкай сфэры | 3,24 | 3,76 | 3,1 | 3,5 | 4 | 2,92 | 3,17 | 2,56 | 4,17 | 3,4 | 3,37 |
| 14. Арганізацыі выкарыстоўваюць гвалтоўныя мэтады, пашкоджваньне маёмасьці альбо гвалт над асобай для выказваньня сваіх інтарэсаў у грамадзкай сфэры | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 15. Арганізацыі могуць прыпыняць сваю дзейнасьць за-за недахопу фінансаваньня (фінансавая ўстойлівасьць) | 3,83 | 3,41 | 4 | 3,41 | 2,62 | 3,07 | 4,13 | 4 | 4,46 | 4 | 3,71 |
| 16. Арганізацыі залежаць толькі ад фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы (дзяржаўнае фінансаваньне) | - | - | - | - | - | 2,71 | - | - | - | - | - |
| 17. Арганізацыі залежаць толькі ад фінансаваньня з боку прыватнага сэктару (фінансаваньне з прыватных крыніц) | - | - | 3,05 | 3,12 | 3,46 | - | - | - | - | - | - |
| 18. Арганізацыі залежаць толькі ад фінансаваньня з боку замежных донараў (фінансаваньне з замежных крыніц) | 3,63 | 3,06 | 3,24 | 3,12 | - | - | 2,9 | 4 | 3,82 | 3,2 | 3,1 |
| II. Прастора для дзейнасьці арганізацыяў падсэктараў грамадзянскай супольнасьці (агульны бал - 3,13; індэкс -43,05) | | | | | | | | | | | |
| 19. Існуе заканадаўчае рэгуляваньне, якое вызначае правілы рэгістрацыі няўрадавых грамадзкіх арганізацыяў(рэгістрацыя) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |

| | Адукацыя | Моладзь | Сацыяльная абарона | Этнічны | Бізнэс | Культура | Жанчыны | Праваборонцы | Экалягічны | Міжнародны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 20. Рэгістрацыя грамадзкай арганізацыі ў вашым сэктары займае ўсяго некалькі тыдняў | 3,53 | 4,2 | 3,3 | 2,73 | 3,15 | 4,14 | 3,5 | 4,63 | 4,08 | 4,67 | 3,64 |
| 21. Рэгістрацыя арганізацыі ў вашым сэктары не складае вялікай праблемы | 3,58 | 4,5 | 2,95 | 2,75 | 3,08 | 3,71 | 3,1 | 4,44 | 4,15 | 4 | 3,51 |
| 22. Падатковае заканадаўства спрыяльнае для арганізацыяў вашага сэктару ў сэнсе прадстаўленьня падатковых палёгак на атрымваныя грашовыя сродкі й сяброўскія складкі (падатковае заканадаўства) | 4,15 | 3,6 | 3,6 | 2,94 | 3,46 | 3,93 | 3,57 | 3,56 | 3,77 | 4,8 | 3,69 |
| 23. Падатковае заканадаўства спрыяльнае для арганізацыяў вашага сэктару ў дачыненьні ахвяраваньняў ад прыватных асобаў альбо бізнэс структур | 3,83 | 4,06 | 3,95 | 2,73 | 3,77 | 3,33 | 3,65 | 3,78 | 4,38 | 5 | 3,75 |
| 24. Ніхто не прымушае арганізацыі падтрымліваць якія-небудзь палітычныя групоўкі альбо далучацца да іх (палітычны ціск) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 25. Улады ўсіх узроўняў (мясцовыя, рэгіянальныя, нацыянальныя) запрашаюць арганізацыі вашага сэктару браць удзел у абмеркаваньні й выпрацоўцы палітычных пастановаў у розных галінах грамадзкага жыцьця (уключанасьць у кіраваньне краінай) | 3,57 | 4,12 | 3,6 | 3,29 | 2,69 | 3,14 | 3,46 | 4,56 | 4,15 | 3,8 | 3,58 |
| 26. Арганізацыі вашага сэктару могуць безь перашкодаў зьвяртацца непасрэдна ў заканадаўчыя органы й выказваць там свой пункт гледжаньня (уплыў на заканатворчы працэс) | 3,39 | 3,44 | 3,19 | - | - | 3 | 2,76 | 3,67 | 3 | 3,8 | 3,06 |
| 27. Дзяржава адзначае заслугі тых асобаў, чыя дзейнасьць у грамадзкіх арганізацыях паказала сваю высокую грамадзкую значнасьць (дзяржаўнае прызнаньне) | 4,3 | 3,5 | 3,5 | 3,57 | 3,25 | 2,57 | 2,88 | 4,56 | 4,15 | 4,75 | 3,61 |
| 28. У цэлым, дзяржава заахвочвае дзейнасьць арганізацыяў вашага сэктару (агульнае стаўленьне дзяржавы) | 3,77 | 3,59 | 3,15 | 2,88 | 3,38 | 2,79 | 2,56 | 4,67 | 3,85 | 3,6 | 3,33 |
| 29. У грамадзтве паважаюць тых, хто ўступае ў арганізацыі вашага сэктару (грамадзкае прызнаньне) | 2,7 | 2,88 | - | - | - | - | - | 2,89 | 2,58 | 3,5 | - |
| 30. Актыўная грамадзянская пазыцыя паважаецца ў нашым грамадзтве (грамадзкая павага) | 2,81 | 2,88 | 2,74 | - | 2,67 | 2,54 | - | 2,89 | 3 | 4 | 2,68 |
| 31. Бізнэс-структуры заахвочваюць удзел сваіх супрацоўнікаў у дзейнасьці арганізацыяў вашага сэктару (прызнаньне з боку бізнэсу) | 3,89 | 3,73 | 3,33 | 3,54 | - | 3,9 | 3,1 | 3,75 | 3,67 | 4,5 | 3,49 |
| 32. Бізнэс-структуры актыўна займаюцца філянтропскімі праграмамі ў падтрымку арганізацыі вашага сэктару (бізнэс-філянтропія) | 4,28 | 4,38 | 3,65 | 3,57 | 3,55 | 3,77 | 3,76 | 4,25 | 4,67 | 4,6 | 3,99 |
| 33. Дзейнасьць замежных фондаў празрыстая ў вашым сэктары грамадзкай дзейнасьці (празрыстасьць працы замежных донараў) | 3 | 3,38 | - | 2,79 | 3,33 | 3,86 | 2,63 | 2,88 | 3,58 | - | 2,97 |



| | Адукацыя | Моладзь | Сацыяльная абарона | Этнічны | Бізнэс | Культура | Жанчыны | Праваборонцы | Экалягічны | Міжнародны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 34. Стасункі паміж арганізацыямі ў вашым сэктары йі замежнымі донарамі адбываюцца без нэгатыўнага ўплыву пасярэднікаў (узаемадзеяньне з замежнымі донарамі ) | 3,07 | 3,67 | - | 3 | 2,73 | 3,64 | 2,74 | 3,13 | 3,55 | - | 3,01 |
| III. Каштоўнасьці грамадзянскай супольнасьці (агульны бал - 1,99, індэкс - 68,01) | | | | | | | | | | | |
| 35. Арганізацыі вашага сэктару актыўна спрыяюць гарманізацыі стасункаў паміж разнастайнымі палітычнымі, культурнымі, рэлігійнымі і этнічнымі групамі ў грамадзтве (талерантнасьць) | - | 2,59 | 2,29 | - | 2,69 | - | 2,59 | - | 2,85 | 3,2 | 2,36 |
| 36. Арганізацыі вашага сэктару з павагай ставяцца да асноўных правоў чалавека: чалавечае годнасьці і права на свабоду выбару й бясьпеку (правы чалавека) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 37. Арганізацыі вашага сэктару актыўна падтрымліваюць ініцыятывы, якія тычацца правоў чалавека (правы чалавека) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 38. Культурныя адрозьненьні людзей, якія жывуць у нашай краіне, знаходзяць адлюстраваньне ў грамадзкай дзейнасьці. Усе асноўныя культурныя групы ў грамадзтве мірным чынам бароняць свае інтарэсы праз грамадзкія арганізацыі, застаючыся пры гэтым цярпімымі да іншых культурных груп. (культурная разнастайнасьць) | 2,58 | - | - | - | - | - | - | - | 2,62 | - | - |
| 39. Арганізацыі вашага сэктару спрыяюць распаўсюджваньню прынцыпаў устойлівага разьвіцьця ў дачыненьні да выкарыстаньня прыродных рэсурсаў (устойлівае разьвіцьцё) | 2,87 | 2,94 | 2,89 | - | - | - | 2,57 | 3,25 | - | 3,4 | 2,64 |
| 40. Арганізацыі вашага сэктару падтрымліваюць гендэрную роўнасьць (альбо прынцып роўнасьці мужчынаў і жанчын) сярод сваіх сябраў | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 41. Арганізацыі вашага сэктару спрыяюць гендэрнай роўнасьці ня толькі ў сваіх шэрагах, але і ў іншых грамадзкіх сфэрах, а таксама ў сфэры бізнэсу й дзяржавы (гендэрная роўнасьць) | 2,94 | 3,06 | - | - | - | - | - | - | - | 3,6 | - |
| 42. Арганізацыі вашага сэктару заахвочваюць канфлікты паміж сябрамі розных рэлігійных і культурных груп (сацыяльныя канфлікты) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 43. Арганізацыі вашага сэктару пагаджаюцца з расызмам (расызм) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 44. Арганізацыі вашага сэктару прадстаўляюць доступ грамадзкасьці да інфармацыі аб сваёй дзейнасьці (справаздачнасьць перад грамадзтвам) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | 2,6 | - |

| | Адукацыя | Моладзь | Сацыяльная абарона | Этнічны | Бізнэс | Культура | Жанчыны | Праваабаронцы | Экалягічны | Міжнародны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 45. Арганізацыі вашага сэктару прадстаўляюць доступ грамадзкасьці да сваёй фінансавай інфармацыі (празрыстасьць) | 3,52 | 3,47 | 2,86 | - | 2,69 | - | - | 3 | 3,23 | 3,2 | 2,8 |
| 46. У арганізацыях вашага сэктару не было выпадкаў карупцыі і нямэтавага выкарыстаньня сродкаў за апошнія два гады (карупцыя) | 3 | 3 | - | - | - | - | - | 2,78 | 2,82 | - | - |
| 47. Арганізацыі вашага сэктару актыўна прыцягваюць сваіх сябраў у сваю дзейнасьць (нутраная дэмакратыя) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 48. Ворганы кіраваньня грамадзкіх арганізацыяў у вашым сэктары фармуюцца на выбарнай аснове | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| IV. Уплыў грамадзянскай супольнасьці (агульны бал - 2,51; індэкс 60,68) | | | | | | | | | | | |
| 49. Арганізацыі дамагаюцца ўключэньня пытаньняў, якія іх цікавяць, у прыярытэты дзяржаўнай палітыкі (дзяржаўныя прыярытэты) | 3 | - | - | 2,63 | - | - | - | - | 2,69 | - | - |
| 50. Прадстаўнікоў арганізацыяў рэгулярна запрашаюць да ўдзелу ў стварэньні і абмеркаваньні заканадаўства па пытаньнях, якімі яны займаюцца (распрацоўка палітыкі) | 3,62 | 3,94 | 3,45 | 3 | - | 2,93 | 3,17 | 4,33 | 4,23 | 4,2 | 3,45 |
| 51. Арганізацыі пасьпяхова ўплываюць на дзяржаўную палітыку ў пытаньнях, якія закранаюць іх інтарэсы (удзел у рэалізацыі) | 3,87 | 4 | 3,7 | 3,53 | 3,08 | 3,21 | 3,27 | 4,22 | 3,92 | 4,2 | 3,65 |
| 52. Арганізацыі пасьпяхова супрацоўнічаюць з урадам у рэалізацыі палітыкі ў сфэры сваіх інтарэсаў (удзел у рэалізацыі) | 3,77 | 4,06 | 3,7 | 3,27 | 2,58 | 2,79 | 3,13 | 4,44 | 4,08 | 4,2 | 3,54 |
| 53. Арганізацыі могуць прадстаўляць гэткія паслугі, прадстаўленьне якіх немагчымае з боку дзяржаўных альбо бізнэсструктур (параўнальная перавага) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 54. Арганізацыі ажыцьцяўляюць эфэктыўны маніторынг выкананьне ўрадавых абавязальніцтваў і рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў сфэры, якая іх цікавіць (маніторынг) | 2,72 | 3,06 | - | 3,2 | - | - | - | 1,78 | 2,58 | 2,8 | 2,6 |
| 55. Дзейнасьць арганізацыяў агулам пазытыўна асьвятляецца ў сродках масавай інфармацыі (імідж ў мас-мэдыях) | 3,07 | 3 | 2,6 | - | - | - | - | 3 | 2,85 | 2,8 | 2,64 |
| 56. Арганізацыі карыстаюцца ўвагай сродкаў масавай інфармацыі й выкарыстоўваюць яе для асьвятленьня сваёй дзейнасьці (увага з боку мас-мэдыяў) | 2,79 | 2,71 | - | - | - | - | - | 2,67 | 2,85 | 2,8 | - |
| 57. Арганізацыі маюць станоўчую рэпутацыю ў вачох грамадзкасьці (грамадзкая рэпутацыя) | - | 3,06 | - | - | - | - | - | - | - | 3 | - |
| 58. Арганізацыі адыгрываюць прыкметную ролю ў разьвязаньні сацыяльных канфліктаў (разьвязаньне канфліктаў) | 2,93 | 3,5 | - | 2,67 | 2,55 | - | - | 2,89 | 3,42 | 3,6 | 2,81 |



| | Адукацыя | Моладзь | Сацыяльная абарона | Этнічны | Бізнэс | Культура | Жанчыны | Праваабаронцы | Экалягічны | Міжнародны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 59. Прадметы й паслугі, якія прадстаўляюцца арганізацыямі, адпавядаюць патрабаваньням і прыярытэтам бакоў, зацікаўленых у іх дзейнасьці (адказнасьць) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 60. Арганізацыі пасьпяхова прыцягваюць да грамадзкай дзейнасьці найбольш неабароненыя катэгорыі насельніцтва (прыцягненьне) | 2,79 | 2,79 | - | - | 3,2 | - | - | 3,13 | 2,92 | - | - |
| 61. Дзейнасьць арганізацыяў карыстаецца падтрымкай грамадзкай думкі (падтрымка з боку насельніцтва) | 2,55 | 3,38 | - | - | - | - | - | - | - | 3 | - |
| 62. Арганізацыі паляпшаюць жыцьцё людзей, зь якімі яны працуюць | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| 63. Арганізацыі пасьпяхова працуюць на агульную карысьць (агульная карысьць) | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |

## Фін Генрых, каардынатар праграмы CIVICUS «Індэкс разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці»

# Беларускі «дыямэнт»

**(тэкст друкуецца зь невялікімі скарачэньнямі, з камэнтарамі рэдакцыі)**

**Найперш, я хачу папярэдзіць, што гэты дакумант быў складзены зьнешнім экспэртам, г.зн. чалавекам, які ня шмат ведае пра сытуацыю ў грамадзянскай супольнасьці Беларусі. Тут я раблю аналіз на падставе вынікаў праведзенага дасьледаваньня. Я параўноўваў таксама вынікі вывучэньня думак беларускіх экспэртаў зь іншымі дадзенымі пра стан грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Пры падліку вынікаў і фармаваньні беларускага "дыямэнту" я ўлічыў гэтыя дадатковыя паказальнікі і такім чынам атрымаў больш збалянсаваную карціну сытуацыі ў Беларусі.**

### 1. Агульная карціна

Збольшага, форма беларускага «дыямэнту» сьведчыць аб грамадзянскай супольнасьці зь сярэдняй ступеняй «здароўя» па большасьці паказальнікаў. Асабліва гэта тычыцца нутранай структуры грамадзянскай супольнасьці, яе ўплыву на палітыку і грамадзтва, а таксама на забесьпячэньне ўмоваў для яго функцыянаваньня. Калі браць пад увагу цяжкае палітычнае асяродзьдзе, у якім функцыянуе грамадзянская супольнасьць у Беларусі, адносна высокі бал у разьдзеле «Умовы» (прастора) для дзейнасьці арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці (43,05%) зьявіліся для мяне нечаканымі. Бал 68,01% у разьдзеле «Каштоўнасьці» грамадзянскай супольнасьці высокі й паказвае на грамадзянскую супольнасьць, якая вельмі актыўна прасоўвае ў грамадзтве прагрэсіўныя каштоўнасьці.

Што тычыцца структуры грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, то тут адносна моцная грамадзянская супольнасьць мае некаторыя нутраныя праблемы (да прыкладу, праблемы ў галіне супрацоўніцтва, фінансаваньня).

У якасьці падсумаваньня, зазначу, што, збольшага, карціна па Беларусі сьведчыць аб адносна здаровай грамадзянскай супольнасьці. Галіны, у якіх найперш трэба ўмацоўваць пазыцыі, - гэта «прастора», «умовы » для дзейнасьці арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці.

### Аналіз вынікаў па асобных паказальніках

#### Структура

У гэтай галіне па двох паказальніках былі атрыманыя досыць адмоўныя вынікі, што паказвае на патрэбу ў актыўных дзеяньнях. Першы паказальнік тычыцца «парасонікавых» арганізацыяў. Нават тыя зь іх, якія працуюць актыўна і эфэктыўна, ацэньваюцца як арганізацыі «закрытага» тыпу (г.зн, у іх працы ўдзельнічае абмежаваная колькасьць грамадзкіх арганізацыяў).

Другая праблема - няроўнае разьмеркаваньне грамадзкіх арганізацыяў у рэгіёнах. Нарэшце, існуе праблема фінансаваньня арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці: за апошні год

вялікая колькасьць арганізацыяў спыніла сваё існаваньне з-за адсутнасьці сродкаў. Гэтая тэндэнцыя асабліва моцная ў падсэктарах «жаночыя» і «экалягічныя» арганізацыі.

**Ад рэдакцыі.** *Цяжка не пагадзіцца з экспэртам па ўсіх трох пазыцыях. "Парасонікавыя" структуры (не аспрэчваем патрэбу ў іх існаваньні) за апошнія гады гэтак і ня сталі надзейнымі "парасонамі". Асамблея няўрадавых арганізацыяў, моцна пацярпелая ад нядаўніх скандалаў ува ўласных шэрагах, дзейнічае куды менш актыўна, чым у першыя гады свайго існаваньня. Да таго ж, дагэтуль ня мае юрыдычнага статусу, што ня можа не адбіцца на эфэктыўнасьці дзейнасьці. Зьніклі абласныя Асамблеі няўрадавых арганізацыяў. Нацыянальная Рада маладзёвых і дзіцячых арганізацыяў статус мае, але амаль ніяк не прадстаўляе інтарэсы ўсіх маладзёвых арганізацыяў, асабліва мясцовых. Усемагутны сёньня БАРЦ схіляецца да тактыкі "руководить и направлять", пры гэтым не асабліва ўлічваючы думкі тых, хто мусіць гуляць па прапанаваных правілах.*

*Што да няроўнага разьмеркаваньня арганізацыяў па рэгіёнах, дык на Гарадзеншчыне гэты паказальнік пацьверджваецца гэтаксама. Побач з адносна "прасунутымі" Гародняй, Смаргоняй, Слонімам, Мастамі, Ваўкавыскам, Наваградкам амаль "ніякія" у сэнсе грамадзянскай актыўнасьці Іўе, Карэлічы, Бераставіца, Сьвіслач.*

*Што да спыненьня дзейнасьці з-за адсутнасьці фінансаваньня, то найбольш актуальная сёньня гэтая праблема для арганізацыяў культурніцкага пляну. Эколягам ды прадстаўніцам жаночых ініцыятываў здабыць сёньня фінансаваньне нашмат лягчэй, што заўважна ў апошнія гады й на Гарадзеншчыне. Па-сутнасьці, зьніклі за апошнія гады толькі лідзкая філія арганізацыі "Жанчыны за Адраджэньне Айчыны" ды маладзёвы экалягічны "Экасьвет". Затое новыя жаночыя ініцыятывы і праграмы зьявіліся ў Гародні, Наваградку, Ашмянах, Смаргоні. Расьце й колькасьць экалягічных праектаў, рэалізаваных арганізацыямі Гарадзеншчыны. А вось з культурніцкімі справы невясёлыя: ініцыятываў багата, мікрагранты ж усім не паразда-еш, дый на мікрагрантах сурьёзныя праекты доўга не працягнуць. Лягічным выйсьцем з гэтага становішча было б стварэньне некалькі зарэгістраваных культурніцкіх арганізацыяў, якія маглі б выконваць ролю своеасблівых няўрадавых фондаў культуры, але паспрабуй ты зарэгіструйся...*

*Зь іншых аспэктаў, якія тычацца структуры грамадзянскай супольнасьці, зьвернем увагу на яшчэ два моманты, чамусьці незакранутыя аўтарам. Першае - гэта нізкі паказальнік выкарыстаньня негвалтоўных мэтадаў адстойваньня сваіх інтарэсаў. Асабліва мала выкарыстоўваюць гэтыя мэтады маладзёвыя і экалягічныя арганізацыі (ува ўсім сьвеце, звычайна, гэтыя дзьве групы праяўляюць найбольшую актыўнасьць). Прычын тут бачацца дзьве. Па-першае, гвалтоўныя дзеяньні з боку міліцыі, КДБ ды іншых структур у дачыненьні да ўдзельнікаў згаданых у дасьледваньні негвалтоўных акцыяў пасеялі ў адных галовах страх, а ў другіх - патрэбу кожны раз думаць, ці варта падстаўляцца і падстаўляць людзей пад дручкі тых, хто па-людзку думаць ня ўмее. Па-другое, арганізаваць легальна падобныя негвалтоўныя акцыі сёньня надзвычай складана.*

*Другі аспэкт, варты ўвагі, - залежнасьць (асабліва адукацыйных ды экалягічных арганізацыяў) ад фінансаваньня з боку замежных донараў. Актыўна змагаецца з гэтай залежнасьцю пакуль што толькі дзяржава - у тым сэнсе, што імкнецца калі не спыніць, то ўзяць пад татальны кантроль любыя праграмы фінансавай падтрымкі грамадзянскай супольнасьці. Разумныя контраргументы тых, хто спрабуе давесьці пра карысьць замежных інвэстыцыяў, пра сотні тысяч даляраў у якасьці падаткаў з грантаў і г.д. у разьлік не бяруцца: няма калі думаць пра інвэстыцыі, калі фатэля пачынае хістацца.*

## Прастора, умовы для дзейнасьці

Адна з існых тут праблем - гэта адсутнасьць падтрымкі арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці з боку бізнэсу.

Другая праблема зьвязаная з падатковым заканадаўствам, якое ацэньваецца як неспрыяльнае для грамадзянскай супольнасьці і донараў.

Нарэшце, экспэрты ацэньваюць працэс рэгістрацыі арганізацыяў як нязручны й няправільны. Гэтыя крыху нэгатыўныя ацэнкі адлюстроўваюцца ў агульнай ацэнцы экспэртамі стаўленьня дзяржавы да арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці, якое бачыцца экспэртам ня вельмі спрыяльным.

Ад рэдакцыі. Мінем дзьве першыя з названых вышэй праблем: камэнтаваць відавочнае няма патрэбы.

Што да рэгістрацыі, то ў выпадку, калі б дасьледваньне праводзілася зараз - вынік быў бы яшчэ больш сумны. Калі на складанасьці з рэгістрацыяй раней найбольш скардзіліся прадстаўнікі маладзёвых і праваабарончых арганізацыяў, то сёньня адчулі небясьпеку ўсе запар. Ужо цяжка і прыгадаць, калі на Гарадзеншчыне была зарэгістраваная апошняя маладзёвая арганізацыя.

Зьвернем увагу таксама на пункт, які тычыцца ўдзелу грамадзкіх арганізацыяў у абмеркаваньні і выпрацоўцы палітычных пастановаў на ўсіх узроўнях. Амаль усе экспэрты адзначылі наяўнасьць праблем у гэтым пытаньні. Практыка мінулага году тое пацьвердзіла: ініцыятары кампаніі "Дыялёг" за адмену Дэкрэту №8 атрымалі замест чаканага выніку папярэджаньні, прадстаўнікоў маладзёвых арганізацыяў не пускалі на паседжаньні органаў улады, якія абмяркоўвалі пытаньні маладзёвай палітыкі, у склад камісіяў, якія будуць разглядаць пытаньні па выдачы ліцэнзіяў для адукацыйных арганізацыяў няма аніводнага прадстаўніка ад гэтых арганізацыяў. Больш таго, іх думкай нават не цікавіліся.

Калі дадаць сюды яшчэ і спробы абмежаваць права на распаўсюджваньне інфармацыі (у мінулым нумары мы пісалі пра праект новага Закону аб друку і СМІ), то зробленая аўтарам высновa пра "ня вельмі спрыяльнае" стаўленьне дзяржавы да арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці будзе гучаць як камплімэнт дзяржаве. Калі гэта - "ня вельмі спрыяльнае", то што такое "неспрыяльнае", альбо, крый Божа, "супрацьдзейнае"?



## Каштоўнасьці

У галіне «каштоўнасьці» грамадзянскай супольнасьці толькі па двох паказальніках не былі атрыманыя пазытыўныя вынікі.

Першы - гэта праблема справаздачнасьці (карупцыя, адсутнасьць празрыстасьці ў дзейнасьці арганізацыяў). Другая праблема, магчыма, менш важная. Гэта праблема «ўстойлівага разьвіцьця», якое грамадзянская супольнасьць (за выключэньнем арганізацыяў «экалягічнага падсэктару»), здаецца, ня надта падтрымлівае.

Збольшага, беларуская грамадзянская супольнасьць мае дастаткова моцную культуру ў галіне абароны правоў чалавека.

**Ад рэдакцыі.** *Цалкам падзяляем трывогу аўтара наконт непразрыстасьці беларускага трэцяга сэктару, наяўнасьці ў ім карупцыі і нямэтавага выкарыстаньня сродкаў. З гэтымі заганамі трэба змагацца нам самым, найперш - праз навядзеньне парадку ўва ўласных арганізацыях.*

## Уплыў

У той час, калі ўплыў грамадзянскай супольнасьці на сваіх сяброў і грамадзтва, збольшага, ацэньваецца як адносна моцны, яго ўплыў на палітыку дзяржавы ацэньваецца як адносна слабы.

Грамадзянская супольнасьць ня мае належнага ўплыву ані на распрацоўку, ані на рэалізацыю дзяржаўнай палітыкі. Выняткам, у пэўнай ступені, зьяўляюцца асацыяцыі сфэраў бізнэсу і культуры. Найбольшы рэйтынг атрымалі гэткія пункты, як уплыў грамадзянскай супольнасьці на агульную карысьць і здольнасьць грамадзянскай супольнасьці запаўняць нішу паміж дзяржавай і рынкам. Праўда, вынікі іншых дасьледваньняў па гэтых пытаньнях малююць менш прывабную карціну.

**Ад рэдакцыі.** *Пра абмежаваныя магчымасьці ўплываць на палітыку дзяржавы й мясцовых уладаў вышэй было сказана дастаткова шмат. Як і ў аўтара, у нас выклікаюць сумневы даволі аптымістычныя высновы экспэртаў пра рэальны ўплыў на грамадзкую думку. Як не круці, ведаюць пра нас людзі мала. З аднаго боку прычына тут у абмежаваным доступе да дзяржаўных СМІ і абмежаваных магчымасьцях недзяржаўных СМІ. З другога боку - няўменьне працаваць із СМІ, страх напісаць/сказаць штосьці такое, што выкліча непатрэбную ўвагу з боку ўладаў. Дадамо сюды забарону на ўзгадваньне ў СМІ незарэгістраваных арганізацыяў - і атрымаем карціну «Падпольшчыкі ў тыле ворага».*

## 2. Высновы

Кароткі аналіз дадзеных дазваляе вылучыць два накірункі дзейнасьці: адзін - нутраны й адзін - зьнешні.

Нутраны тычыцца справаздачнасьці і празрыстасьці ў дзейнасьці арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці. Зьнешні - удзелу дзярж- і бізнэссэктароў у разьвіцьці грамадзянскай супольнасьці. І хоць пакуль што ў Беларусі працягваюцца спрэчкі пра тое, як (альбо ці варта наагул!) будаваць стасункі паміж арганізацыямі грамадзянскай супольнасьці й органамі ўлады, варта прызнаць, што ад улады шмат у чым залежыць атмасфэра, у якой функцыянуе грамадзянская супольнасьць.

Праведзены аналіз дазваляе зрабіць наступную выснову: грамадзянская супольнасьць павінна больш грунтоўна падумаць над тым, па якіх пытаньнях яна павінна пабудаваць стасункі з уладамі, каб мець магчымасьць зьдзяйсьняць уплыў на яе палітыку, і як пераканаць улады ў важнасьці стварэньня прававых і палітычных умоваў (прасторы) для функцыянаваньня арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці так, каб яны маглі цалкам раскрыць свой патэнцыял у працы на карысьць грамадзтва.

Аднак, для таго, каб пераканаць улады ў неабходнасьці стварэньня спрыяльных прававых умоваў і зьмяненьні стаўленьня ўлады да арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці наагул, грамадзянская супольнасьць, найперш, павінна «навесьці парадак ува ўласнай хаце» (г.зн, забясьпечыць справаздачнасьць і празрыстасьць у сваёй дзейнасьці).

**Ад рэдакцыі:** *да слушных высноваў аўтара дадамо яшчэ дзьве. Першая зь іх тычыцца неабходнасьці пашырэньня й паляпшэньня якасьці паслуг з боку трэцяга сэктару, другая - пошуку шляхоў уплыву ня толькі на ўлады, але й на грамадзкую думку.*

*Можна ўсё жыцьцё займацца тым, што табе падаецца важным і патрэбным. Але калі гэта ня важна й не патрэбна людзям, на якіх накіраваная дзейнасьць арганізацыі, то ня будзе ані падтрымкі, ані даверу, ані прыцёку новых людзей. Пакуль маркетынг не пeратворыцца з проста моднага слова ў інструмант арганізацыйнага разьвіцьця - марыць пра грамадзянскую супольнасьць давядзецца вой як доўга!*

*Тоесама тычыцца і актыўнай інфармацыйнай палітыкі арганізацыяў трэцяга сэктару. Ад вэб-пляцовак у Інтэрнэце час ладзіць кірмашы і прэзэнтацыі, дні адчыненых дзьвераў ды сустрэчы за кавай з бізнэсоўцамі. Некаторым актывістам трэцяга сэктару, у рэшце рэшт, пара пачаць дбаць пра чысьціню ня толькі сваіх душ, але й чысьціню свайго цела, сваёй вопраткі, свайго офісу. Інакш так і не дачакаемся, каб нас ацанілі паводле нашага розуму.*

### Ваўкавыск рыхтуецца да сьвятаў

9 лютага ў Ваўкавыску адбылося паседжаньне аргкамітэту па падрыхтоўцы сьвяткаваньня 500-годзьдзя Магдэбурскага права і 1000-годзьдзя гораду.

У склад камітэту ўваходзяць прадстаўнікі Ваўкавыскага краязнаўчага таварыства, ГА "Аслона", Ваўкавыскай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны", Рэспубліканскага ГА "Гарцэрства", "Местной газеты".

На паседжаньні быў ухваленыя плян дзейнасьці, выпрацаваны Ваўкавыскім краязнаўчым таварыствам, а таксама абмеркаваная стратэгія пошуку сродкаў і правядзеньня мерапрыемстваў. Пастанавілі ў бліжэйшы час распачаць

# Ліст у падтрымку гарадзенскіх журналістаў

**Некалькі дзясяткаў журналістаў і грамадзкіх дзеячаў Гарадзеншчыны паставілі свае подпісы пад Адкрытым лістом да пракурора Гарадзенскай вобласьці Васіля Літвінава.**

Падпісанты прасілі пракурора "выказаць сваю грамадзянскую ацэнку магчымага прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці журналістаў Паўла Мажэйкі й Міколы Маркевіча".

13 лютага старэйшы сьледчы па найважнейшых справах пракуратуры Гарадзенскай вобласьці Алег Кулевіч выклікаў галоўнага рэдактара газэты "Пагоня" Міколу Маркевіча, а на наступны дзень - журналіста гэтай самай газэты Паўла Мажэйку для прад'яўлення ім абвінавачваньня. Крымінальная справа, якую расьследуе А.Кулевіч у дачыненьні да абвінавачаных, была ўзбуджаная 5 верасьня 2001 году паводле ч.2 арт.367 Крымінальнага кодэксу. Падставай для пачатку расьследваньня сталіся колькі публікацыяў, якія ўвайшлі ў №36 "Пагоні", хаця гэты нумар не пабачыў сьвет, бо быў сканфіскаваны органамі пракуратуры ў той самы дзень.

У лісьце на імя пракурора, у прыватнасьці, гаворыцца: "Мы перакананыя, што журналісты Павал Мажэйка й Мікола Маркевіч - ня толькі ніякія не злачынцы, а людзі сумленныя, з актыўнай грамадзянскай пазыцыяй, патрыёты Беларусі. Перасьлед такіх людзей, штучнае "навешваньне" ім крымінальшчыны зьяўляецца процідзяржаўнай, шкоднай для краіны справай. Яна дыскрэдытуе Беларусь і яе праваахоўныя органы ў вачох міжнароднай супольнасьці.

Спадар пракурор! Вы маеце паўнамоцтвы спыніць ганебную справу. Гэтым Вы дакажаце, што высокае слова "Закон" у нашай краіне - не пусты гук. Мы заклікаем Вас выканаць свой службовы абавязак і спыніць сьледзтва супраць журналістаў Паўла Мажэйкі й Міколы Маркевіча."

**13 і 14 лютага Гарадзенская абласная пракуратура прад'явіла абвінавачваньне ў паклепе на Прэзыдэнта РБ галоўнаму рэдактару ПАГОНІ Міколу Маркевічу і журналісту гэтайсама газэты Паўлу Мажэйку. Журналістам пагражае пазбаўленьне волі тэрмінам да пяці гадоў. Пакуль што мерай утрыманьня для абодвух была абраная падпіска аб нявыезьдзе.**

Сьледчы пракуратуры Алег Кулевіч прыйшоў да высновы, што тры публікацыі з № 36 газэты ПАГОНЯ ад 04.09.2001г. утрымліваюць паклёп, спалучаны з абвінавачваньнем Прэзыдэнта ў асабліва цяжкіх злачынствах: забойстве, генацыдзе і ўтварэньні злачыннай арганізацыі альбо ўдзеле ў ёй. На думку пракуратуры, Мікола Маркевіч як галоўны рэдактар зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае часткай 2 арт 367 УК РБ.

У сказе з артыкулу Паўла Мажэйкі "Ідзем на выбары": "Ці, урэшце рэшт, можа быць вартым народнай падтрымкі чалавек, які змагаецца із сваімі апанэнтамі, забіваючы іх?" - пракуратура ўгледзела абвінавачваньне ў забойстве.

Словы: "Сем гадоў кіраваньня Лукашэнкі прадэманстравалі, што ён проста хворы чалавек, які зьнішчае наш народ. Забівае сваіх апанэнтаў, разбурае ўсё нацыянальнае, што яшчэ засталося ў нашым грамадзтве, і мэтанакіравана даводзіць беларускую нацыю да выміраньня" - з артыкулу "Ён - не Лукашэнка" С. Каркасевіча, на думку пракуратуры, утрымліваюць абвінавачаньне ў забойстве і генацыдзе.

А радкі вершу "Абяшчал! Абяшчаю! Буду абяшчаць!": "Абяшчал народу я, што пагибнет мафия... Можаце миня паздравиць: Мафию рашыл... вазглавиць я," - на думку пракуратуры, абвінавачваюць Прэзыдэнта РБ ува ўтварэньні злачыннай арганізацыі альбо ўдзеле ў ёй.

У сваёй пісьмовай заяве, далучанай да пратаколу, Маркевіч патрабаваў неадкладнага спыненьня крымінальнага перасьледу: "Расцэньваю гэтую справу як акт беззаконьня, як палітычную замову з боку асобаў, імёны якіх узгадваюцца ў сувязі з існаваньнем у Беларусі эскадронаў сьмерці і якія асабіста зацікаўленыя ў тым, каб застрашыць журналістаў, заткнуць ім рот, кінуць на турэмныя нары..."

**Паводле Інтэрнэт-версіі газэты "Пагоня"**

# Нашыя газэты лепшыя

**Падведзеныя вынікі спабору школьных і навучэнскіх газэт, які праводзіла рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне "Таварыства беларускай школы".**

Дыплёмам II ступені ўзнагароджана газэта Слонімскай суполкі ТБМ "Ветразь надзеі" (рэдактар Тацяна Трафімчык). Дыплёмы III ступені атрымалі бюлетэнь творчага маладзёвага аб'яднаньня на Слонімшчыне "Вятрак" (рэдактар Алег Шэлестаў), газэта Мастоўскага аддзяленьня фонду "Дзецям Чарнобылю" "Мы з XXI" (рэдактарка Алена Мялешка), навучэнскае выданьне з Мастоў "Школьныя навінкі" (рэдактарка Тацяна Гладухава). "Паэтычная газэта" Алега Шэлестава атрымала таксама спэцыяльны дыплём.

**Сяргей ЧЫГРЫН, "Газета Слонімская"**



# Узнагароды гарадзенскім журналістам

**Гарадзенскія журналісты сталі ляўрэатамі II беларускага фэстывалю недзяржаўнай прэсы, які адбыўся 18 студзеня ў Менску.**

**Сёлета ён быў арганізаваны Беларускай асацыяцыяй журналістаў сумесна з Фондам разьвіцьця рэгіянальнай прэсы пры падтрымцы прадстаўніцтва IREX у Беларусі.**

**Дыплёмам Беларускай асацыяцыі журналістаў "ЗА АДДАНАСЬЦЬ ПРАФЭСІІ" былі ўганараваныя Мікола Маркевіч (на здымку) й Павал Мажэйка (рэдактар і журналіст зачыненай напрыканцы мінулага году газэты "Пагоня"), Алена Раўбецкая й Зьміцер Ягораў (рэдактар і карэспандэнт гарадзенскай "Биржи информации").**







**Шчыра віншуем усіх дыплямантаў і зычым ім посьпехаў у працы і шчасьця ў асабістым жыцьці!**

### "Беларускія сьвядомасьць, мова, гісторыя" - у Шчэціне

**Гарадзенскім абласным адзьдзяленьнем Фонду імя Лява Сапегі разам з Адукацыйным цэнтрам Фонду разьвіцьця мясцовай дэмакратыі, што знаходзіцца ў польскім горадзе Шчэцін, была выдадзеная першая частка з шэрагу брашураў "Праз адукацыю да грамадзянскай супольнасьці".**

Частка пад назвай "Беларуская сьвядомасьць, мова, гісторыя: на зломе стэрэатыпаў" утрымлівае ў сабе даклады трох гарадзенцаў: Алеся Краўцэвіча - "Ключавыя праблемы выкладаньня гісторыі Беларусі", Віктара Сазонава "Каб ня ўмёрлі"-светапоглядныя адрозьненьні моваў", Янкі Трацяка "Рэлігія, як фактар нацыянальнай сьведамасьці".

Даклады з гэтае брашуры чыталіся беларускім настаўнікам у час сэмінару, які праходзіў у Шчэціне ў ліпені 2001-га году.

### Прыклад - Гарадзенская вобласьць

**Гельсынская Фундацыя па правох чалавека выдала даведнік па выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь на прыкладзе Гарадзенскай вобласьці.**

Выданьне ўзьнікла паводле сьведчаньняў асобаў, інфармацыі ад мясцовых назіральнікаў, скаргаў да ўладаў і адказаў на іх.

Да дакладу былі даданыя найбольш тыповыя дакумэнты, складзеныя паводле парушэньняў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

### Будуць сумесныя праекты

**Прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў з памежных рэгіёнаў Гарадзеншчыны абмяркоўвалі магчымасьці супрацоўніцтва з летувіскімі калегамі.**

Гэтай тэме быў прысьвечаны сэмінар, які праходзіў 12-13 студзеня ў Друскеніках (Летува) і быў арганізаваны Фондам летувіскіх і амэрыканскіх ініцыятываў.

Зь беларускага боку былі прадстаўленыя арганізацыі і ініцыятывы із Смаргоні, Гародні, Ашмянаў і Воранава. У выніку сустрэчы былі падрыхтаваныя папярэднія варыянты дзесяці сумесных беларуска-літоўскіх праектаў.

# Інтэрнэт-рэсурсы трэцяга сэктару Гарадзеншчыны

*"Трэці сэктар" працягвае знаёміць вас з Інтэрнэт-рэсурсамі трэцяга сэктару Гарадзеншчыны. Сёньня мы прэзэнтуем вэб-пляцоўку, а таксама друкуем інтэрвію з адным із стваральнікаў старонкі "фанатаў вёскі Дубна".*

### Дубна - вёска ў... Інтэрнэце

Блукаючы па беларускім Сеціве, часам можна знайсьці вялікую колькасьць цікавых пляцовак. Да прыкладу, пляцоўку "Афіцыйнага фан-клюбу вёскі Дубна" (*www.dubno.by.ru*).

Наведвальнікаў старонкі сустракае надпіс наступнага зместу: "Нас, фанатаў вёскі Дубна, аб'яднала сьвятое пачуцьцё любові да роднага краю." Аўтары і складальнікі пляцоўкі цьвердзяць: *"Мы ўсьведамляем сябе паўнапраўнымі ўдзельнікамі Дубенскага грамадзтва... Нішто на сайце ня можа тлумачыцца як паклёп на дзейнага прэзыдэнта РБ, Палату прадстаўнікоў і іншыя дзяржаўныя структуры. Усе пазацэнзурныя словы й выразы былі ўжытыя толькі ў мастацкіх мэтах."*




Сёньня мы гутарым з адным із каардынатараў гэтага праекту Ігарам Трафімовічам, жыхаром Горадні, які звычайна на пляцоўцы прысутнічае пад "нікам" "госьць".

**- Распавядзі пра канцэпцыю пляцоўкі dubno.by.ru?**

- Пачну здалёк. У Беларусі безьліч вёсак. Вёска Дубна, што на Мастоўшчыне, на першы погляд, самая звычайная. Але калі пазнаёміца зь ёй бліжэй, то разумееш яе выключнасьць. Свой сайт мы нараклі "Афіцыйным фан-клюбам вёскі Дубна".

Мы спрабуем сачыць за падзеямі ў Дубне, асаблівую ўвагу зьвяртаем на дубенскую моладзь. Нам - "з гораду" - вясковае жыцьцё здаецца дзіўным, нават сьмешным, таму на пляцоўцы хапае "сьцёбу". Уся інфармацыя пра вёску, што ёсьць на пляцоўцы, прадстаўленая ў выглядзе апавяданьняў, часам фантастычных.

**- Што за людзі працуюць над праектам?**

-Маральна і фізычна мне дапамагаюць людзі, што хаваюцца пад нікамі "dolphin_e" і "mikolka". Яны жывуць у Менску і ў вольны час таксама прыяжджаюць у Дубна, дзе іх чамусьці называюць "менскімі".

**- Як часта абнаўляецца старонка?**

- Новая інфармацыя зьяўляецца ледзь ня кожны тыдзень.

Акрамя гэтага, увесь час удасканальваецца дызайн, а тэксты дапаўняюцца новымі фактамі, фатаздымкамі, аповедамі.

**- Якія ў вас пляны на будучыню?**

- Хацелася бы пашырыць кола наведвальнікаў, зрабіць пераклад тэксаў у расейскую мову, нарабіць больш фатаздымкаў, пераехаць на дамэн першага ўзроўню. Калі будзе магчымасьць, то можна будзе і кніжку пра вёску Дубна выдаць.

**Гутарыў Андрэй Мялешка**

## „Сямья" прэзэнтуе

Гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне "Сямья" было створанае ў красавіку 1997 году. Галоўнымі мэтамі дзейнасьці арганізацыі зьяўляюцца ўсеабдымнае забесьпячэньне правоў дзіцяці, адраджэньне і ўмацаваньне сям'і як асновы грамадзтва, папярэджаньне сацыяльнага сіроцтва.

Наведвальнікі на адрасе *www.centre.f2s.com* змогуць атрымаць інфармацыю пра праекты й дасягненьні арганізацыі, а таксама партнэраў арганізацыі.

**Папраўка:** *у мінулым нумары часапіса быў няправільна пададзены адрас вэб-пляцоўкі Таварыства польскай моладзі ў Гародні. Пляцоўку гэтай арганізацыі вы знойдзеце па адрасе tmp-zpb.narod.ru*

### "Гісторыка" зьявілася ў Слоніме

**19 студзеня ў Слоніме прайшоў ініцыятыўны сход па стварэньню Слонімскай філіі агульнарэспубліканскай арганізацыі "Гісторыка". Адным з ініцыятараў стварэньня арганізацыі зьяўляецца Зьміцер Трафімовіч.**

У плянах арганізацыі - правядзеньне гістарычных віктарын па веданьню гісторыі Слоніму ды агульнагарадзкога гістарычнага спабору сярод шкаляроў.

### "Віленскі тракт" у Астраўцы

**26 студзеня ў Астраўцы адбылася сустрэча жыхароў раёну з прадстаўнікамі грамадзкіх аб'яднаньняў з Гародні, Ашмянаў і Смаргоні.**

Амаль усе зь мясцовых удзельнікаў сустрэчы (22 чалавекі) выказаліся за стварэньне грамадзкай арганізацыі ў Астраўцы. Арганізатарам сустрэчы выступіла маладзёвая ініцыятыўная група "Віленскі тракт".





# Ігар Кузьмініч: "Цёплая, дзіўная, небясьпечная... Афрыка!"

**Як вы сабе ўяўляеце Афрыку? Да прыкладу, мне яна бачылася, як непраходныя джунглі з мноствам дзікіх жывёлін і размаляваных тубыльцаў-людажэраў. Аднак пасьля размовы зь сябрам гарадзенскага абласнога грамадзкага аб'яднаньня маладых навукоўцаў "Віт" Ігарам Кузьмінічам я даведалася, што Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка - даволі эўрапеізаваная краіна.**

**-Ігар, распавядзі, як ты патрапіў у Паўднёвую Афрыку?**

-У Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы праводзілася міжнародная канфэрэнцыя "Глябальны альянс за справядлівую адукацыю", на якой разглядаліся новыя формы і мэтады прававой адукацыі. Нашая арганізацыя займаецца гэтым накірункам працы - і я як прадстаўнік ГА "Віт" быў туды запрошаны.

**-Якімі былі вашыя першыя ўражаньні аб гэтай краіне?**

-Калі я выехаў з аэрапорту ў Дурбане, першае, што кінулася ў вочы, - плот з кольцамі калючага дроту. Мне адразу ўзгадаліся карцінкі зь дзяцінства пра часы апартэіду ў гэтай краіне: белыя ганяюць каламі чорных і г.д. Пазьней я ўбачыў, што кожны прыстойны, нават сярэдні дом, абгароджаны плотам, а зьверху - калючы дрот. Мне растлумачылі: яны гэтак абсалютуюць бясьпеку. Яны баяцца. Ёсьць нават спэцыяльныя тэлеперадачы, якія прысьвечаныя сыстэмам ахові дома, дзе распавядаюць, як хутка зачыняюцца вокны, чаму іх зламаць нельга, як зрабіць плот пад напругай.

**-Яны баяцца сваіх жа?**

-Яны баяцца ўсіх. Гэта не залежыць ад расы. У іх страх перад неарганізаваным бандытызмам. На вуліцах бадзяюцца групы маладзёнаў, якія зарабляюць сабе на ежу ды вопратку, а не для таго, каб узбагаціцца. Першае выказваньне, якім цябе сустракаюць: "Не хадзіце, не гуляйце: гэта небясьпечна. Тут небясьпечна. Там небясьпечна."

Я яшчэ нідзе ня чуў, каб мне столькі казалі пра небясьпеку. Мы потым ужо жартавалі: "Хадзем у краму? - Не, гэта нябясьпечна." У нас адзін выпадак быў. Недзе а сёмай гадзіне вечару, калі мы пайшлі ў краму (прыкладна ў 300-х мэтрах ад нашага гатэлю), паліцыянт нам сказаў: "Не хадзеце - гэта небясьпечна." Мы ўсё роўна пайшлі, і, калі вярталіся, мой сябра кажа гэтаму ахоўніку правапарадку: "Бачыце, я вярнуўся! Калі вы баіцеся, то паклічце мяне, я з вамі схаджу."

**- Як адбылася першая сустрэча з тубыльцамі?**

-Першае маё сутыкненьне з чарнаскурым чалавекам было ў аэрапорце, калі мне трэба было перасесьці на самалёт нутраных ліній. Мяне вельмі ўразіла занадта падкрэсьленая ветлівасьць гэтага чалавека. Ён дапамог мне аформіць дакументы і знайсьці месца, адкуль мне патрэбна было вылятаць. Урэшце рэшт, пазьней аказалася, што ён мяне падмануў. Сказаў, што гэта складана знайсьці, хоць, насамрэч, было побач. З аднаго боку, ён быў падкрэсьлена добрым да мяне, а з другога - проста падманваў.

І гэткае падвойнае стаўленьне было заўважным напрацягу ўсяго часу майго побыту ў Паўднёвай Афрыцы. Едзеш у аўтобусе - людзі табе ўсьміхаюцца, махаюць рукамі, але ты ўсё роўна адчуваеш напружанасьць. Ідзем па вуліцы каля групы маладых людзей, і здаецца, што мала бракуе, каб яны камянём табе ў галаву ня кінулі. Я думаю, што гэта нават не з-за таго, што я белы: на вуліцах белых бамжоў таксама шмат. Справа тут больш у сацыяльных прычынах.



Першая сустрэча з зулускімі дзецьмі таксама была цікавай. Нам у спэцыяльным намёце паказвалі канцэрт, а дзеці зь бедных раёнаў прыйшлі паглядзець на нас. Мы нічога не разумелі: хто мы для іх, чаму яны для нас сьпяваюць, танчаць. Яны ж узіраліся на нас, як на іншапляняэтнікаў.

**-Якая розьніца ў становішчы паміж чорным і белым насельніцтвам?**

-Пад уладай белых знаходзяцца ўсе рэсурсы і фактычная ўлада. Але палітычная эліта - чорнае насельніцтва. Урад таксама чорны. Наагул, за апошнія 10 гадоў у грамадзтве адбыліся істотныя зьмены. Раней, дзе былі белыя - там толькі белыя, дзе чорныя - толькі чорныя. Цяпер, фактычна, ствараецца новы пласт - сярэдняя кляса, у якую прыходзяць чорныя. Найвышэйшая кляса, эліта грамадзтва, па-ранейшаму, беласкурая.

**-Калі параўнаць іх і наш узровень жыцьця, то...**



-У нас няма гэткай заўважнай мяжы паміж вельмі багатымі й вельмі беднымі. Там гэтую мяжу бачна надзвычай выразна. Багатыя жывуць у асобных раёнах сваім замкнутым жыцьцём, навучаюцца ў іншых установах. Другая частка насельніцтва - даволі вялікая - сярэдняя кляса. Яна, у сваю чаргу, падзяляецца на групы, але яны прыблізна аднолькавыя па свайму статусу й заможнасьці. І трэцяе - гэта бедныя людзі. Іх можна параўноўваць з нашымі бамжамі, але ў нашых нічога няма. А ў гэтых з шыфэру, ці з каробак складзеныя хаты: мэтар на мэтар. Бяз вокнаў. бязь дзьвераў. Цэлыя кварталы забудаваныя падобнымі мазанкамі. І гэтыя людзі працуюць недзе. Яны нешта робяць.

Мяжу паміж клясамі бачна проста на вуліцы. Прыкладам, едзеш на машыне. Асфальт такі роўны, што ажна шклянку вады паставіць і яна не варухнецца ў час руху. Відаць, колькі тысячаў даляраў было ўкладзена ў кожны кіламэтар дарогі. А пяць мэтраў убок - стаіць халупа, якая не каштуе нічога. Такую бясплатна можна зрабіць, абмазаўшы глінай пруткі.

Гэткы страшэнны раён мяжуе зь серадняцкім. Мяжа паміж імі адразу заўважная па калючым дроце. З аднаго боку дроту - халупы, сьмецьце, з другога - падкошаная трава, усё пафарбаванае, прыгожае...

**-Чым вас частавалі?**

-Нас кармілі стравамі афрыканскай кухні, індускай ежай. Там вельмі часта ядуць курыцу. Марскія прадукты, як нам казалі, зулусы ня надта любяць. Мы хацелі пакаштаваць акулу, але не знайшлі. Шмат даюць рознай гародніны. Нешта накшталт нашых кабачкоў. Дзіўны смак, але мне ня вельмі спадабалася. Індуская кухня - гэта жах! Трэба браць літар вады на лыжку ежы. У іх вельмі шмат спэцыяў. Што для індуса вострае, тое для беларуса - сьмерць.

**-Якімі словамі можна ахарактэрызаваць гэтую краіну?**

-Мяккая, прыгожая, дзіўная... Небясьпечная, але не настолькі, наколькі яны любяць гэтае слова.

**Вольга Шэшко**

### Дабрачыннасьць зь "Песьнярамі"

4-га лютага ў Гарадзенскім драматычным тэатры адбыўся дабрачынны канцэрт з удзелам гурта "Песьняры".

Сродкі з канцэрту пойдуць на рамонт і рэканструкцыю цэнтру рэабілітацыі для дзяўчынак - выпускніцаў дома-інтэрнату й дзетак-бяздомных.

Ладзіла дадзенае мерапрыемства грамадзкае аб'яднаньне "Цэнтр міласэрнасьці "Сям'я".

### "Я - сама" - новая жаночая ініцыятыва ў Ашмянах

У Ашмянах распачала сваю дзейнасьць маладзёвая жаночая ініцыятыва "Я сама".

Актывісткі гэтае ініцыятывы плянуюць правядзеньне дыскусійных сталоў па тэмах "Адносіны да спаронаў: за ці супраць", "Дачыненьні хлопца і дзяўчыны" з дэманстрацыяй фільму і камэнтарамі спэцыяліста па эфэктыўнай кантрацэпцыі, арганізацыя сэмінараў па гендэрных пытаньнях.

## "Ад сэрца да сэрца"

**Гэтак называлася акцыя, якую 1–7 сьнежня ладзіў "Цэнтар міласэрнасьці "Сям'я". Зважаючы на вынікі, рэкляма ў месьце і СМІ прыцягнула ўвагу многіх людзей.**

Зернейка да зернейка зьбіраўся фонд. І ў выніку - больш за 50 шматдзетных дзяцей у гэты Новы год адчулі, што сьвет не бяз добрых людзей, што здараюцца часам цуды, а многія дзеткі - упершыню атрымалі падарункі...

На акцыю адгукнуліся буйныя арганізацыі, прадпрыемствы і прыватныя асобы. Мела значэньне дапамога кожнага чалавека. У паліклініках падрыхтавалі сьпіс зь 500 адрасоў шматдзетных сем'яў, якія маюць найбольшую патрэбу ў дапамозе. 356 сем'яў атрымалі падарункі, складзеныя з ахвяраваньняў. Кавярня "Антарэс", рэстарацыі "Залатое цяля" і "Блюз" зрабілі магчымай арганізацыю салодкіх сталоў. Із сваімі падарункамі наведалі 95 сем'яў валянтэры з ініцыятыўнае групы "Шлях у нябёсы" і хрысьціянскай арганізацыі "Ўратаваньне". Да акцыі далучыліся валянтэры праекту "Глябальны рух у інтарэсах дзяцей" ГА "Віт".

"Гэта цудоўная акцыя. Студэнты, што разносілі падарункі, на ўласныя вочы бачылі рэакцыю дзяцей, - кажа кіраўніца Цэнтру Валянціна Радзівонцава. - І пасьля гэтага многія зьмянілі свае жыцьцёвыя прынцыпы. Яны зразумелі, што трэба ісьці да людзей, а не спадзявацца толькі на дапамогу дзяржавы."

Адзначым, што гэтая акцыя ладзілася ўпершыню, і тое, што яна адразу знайшла падтрымку сярод людзей, гаворыць пра многае.

**Алена Стасюкевіч**





# Лепей ствараць будучыню сёньня, чым рэагаваць на рэчаіснасьць

**Да гэткой высновы прышлі арганізатары і ўдзельнікі працоўнай канфэрэнцыі "Сыстэма ўдзелу ў працы сеткі некамэрцыйных арганізацыяў, рэсурсных цэнтраў і прафэсійнікаў некамэрцыйнага сэктару TRAINET", якая адбылася 25 - 27 студзеня ў Калузе (Расея). У якасьці госьця ў працы канфэрэнцыі браў удзел прадстаўнік "Цэнтру "Трэці сектар" Віталь Нікановіч. Мы прапануем чытачом часапісу яго нататкі зь месца падзеяў.**

### Крок на ўсход?

Напэўна, упершыню прадстаўнікі "Цэнтру "Трэці сектар" удзельнічылі ў нейкіх мерапрыемствах, арганізаваных расейскімі калегамі. І, як паказала канфэрэнцыя ўдзельнікаў сеткі TRAINET, магчымасьцяў для наладжваньня супрацоўніцтва вельмі шмат.

Галоўнае, што ўразіла падчас знаходжаньня ў Калузе, - тое, што Беларусь лічаць сапраўднай замежнай краінай. Не было настальгіі па савецкіх часах ды ўзгадваньняў пра той "саюз", які "будуецца". Адсутнічалі пытаньні пра ізаляванасьць ад "усяго сьвету". "А можа я не ў Расеі?" - колькі разоў я пытаўся самога сябе. Бо, калі ехаў у Калугу, стаўленьне да расейскіх грамадзянаў было зусім іншым.

### www.trainet.org

Першы дзень канфэрэнцыі. Праца была прысьвечаная аналізу сытуацыі ў сетцы. Паколькі склад удзельнікаў быў вельмі розны, то было досыць цікава працаваць у тэматычных групах: зацікаўленых "спажыўцоў" (там быў і я), актыўных удзельнікаў сеткі (экспэртаў, аўтараў матэрыялаў, кансультантаў) і ўдзельнікаў сеткавых праектаў (найвышэйшага ўзроўню ўзаемадзеяньня ў межах сеткі).

Кожная група выклала сваё бачаньне існай сытуацыі разьвіцьця TRAINET. У выніку дыскусіі выявілася, што для большасьці сетка зьяўляецца важным інфармацыйным рэсурсам, які дапамагае разьвязваць праблемы штодзённай дзейнасьці некамэрцыйных арганізацыяў і прафэсійнікаў трэцяга сэктару.

Сёньня структура рэсурсаў сеткі TRAINET выглядае наступным чынам:

- Віртуальны рэсурсны цэнтар для НГА (www.trainet.org);
- Сыстэма падтрымкі Інтэрнэт-супольнасьцяў (www.trainet.org/communities/);
- Сыстэма грамадзкіх рэсурсаў Інтэрнэту (www.ngo.ru);
- Віртуальны кірмаш сацыяльных праектаў і паслуг (fair.trainet.org);
- Сацыяльная рэкляма ў Расіі (safelove.trainet.org).

Акрамя гэтага ў межах сеткі працуюць сайты шматлікіх Інтэрнэт-супольнасьцяў (прыкладам, сайты супольнасьцяў прафэсійнікаў па фандрайзынгу, маладзёвых і дзіцячых грамадзкіх арганізацый, гарадзкіх дабрачынных фондаў і г.д), а таксама функцыянуюць сайты расейскіх некамэрцыйных аб'яднаньняў.

Цікавая статыстыка. Штодзённа паслугамі сеткі TRAINET карыстаюцца каля 30 чалавек. А агульная колькасьць атрымальнікаў электронных тэматычных рассылак - каля 2000 чалавек. Сёньня TRAINET з'яўляецца найбуйнейшай сеткай некамэрцыйных арганізацый ня толькі Расеі, але і Эўропы.

### Магчымасьці Віртуальнага рэсурснага цэнтру

Падчас працы ў малых групах у другі дзень канфэрэнцыі ўдалося скарэктаваць місію TRAINET, вызначыць асноўныя задачы сеткі, а таксама выпрацаваць асноўныя прынцыпы эфэктыўнага функцыяваньня.

А я даведаўся пра рэсурсы Віртуальнага рэсурснага цэнтру для НГА. Гэтыя паслугі, дарэчы, могуць быць вельмі й вельмі карысныя беларускім прадстаўнікам трэцяга сэктару.

Віртуальны рэсурсны цэнтар прапануе карыстальнікам наступныя паслугі:

- info-рэсурсы - падборкі інфармацыі аб рэсурсах і магчымасьцях разьвіцьця НГА (грантах, стыпэндыях, стажыроўках, канфэрэнцыях), якія штодзённа абнаўляюцца;
- расклад трэнінгаў дазваляе арыентавацца ў трэнінг-падзеях, якія адбываюцца ў Расеі й за мяжой;
- сыстэма віртуальнага трэнінга ўключае кароткатэрміновае дыстанцыйнае навучаньне для супрацоўнікаў некамэрцыйных арганізацыяў;
- электронная бібліятэка - база дадзеных, якая ўтрымлівае выданьні па розным аспэктам дзейнасьці і разьвіцьця НГА;
- мэтадычны фонд - база дадзеных, якая ўтрымлівае матэрыялы для правядзеньня трэнінгаў і кансультацыяў па аспэктах дзейнасьці і разьвіцьця НГА;
- кадравае агенцтва - база дадзеных спэцыялістаў у галіне некамэрцыйнага сэктару, а таксама панэль вакансіяў;
- кансультацыі on-line - сыстэма да атрыманьня завочных кансультацыяў, паводле розных пытаньняў дзейнасьці й разьвіцьця НГА;
- лісты рассылкі - тры дыскусійныя лісты для распаўсюджваньня інфармацыі й абмеркаваньня агульных пытаньняў дзейнасьці НГА і прасоўваньні паслуг (RTNList), для абмеркаваньня пытаньняў фанд-

райзэнгу ў НГА (FRlist), для абмеркаваньня пытаньняў прававога рэгуляваньня дзейнасьці, бухгальтарскага ўліку й падаткаабкладаньня НГА (LATlist). Дарэчы, падпісацца на лісты можа любы ахвотнік шляхам наведваньня Віртуальнага рэсурснага цэнтру, усе паслугі якога, зразумела, бясплатныя.

А ў канцы дня адбылася цікавая экскурсія. У Калузе захавалася некалькі помнікаў архітэктуры XVII-XIX стагодзьдзяў. Мяне вельмі ўразіў музэй гісторыі касманаўтыкі.

**"TRAINET+ТРЭЦІ СЭКТАР =..."**

Трэці дзень канфэрэнцыі быў прысьвечаны выпрацоўцы праектных прапановаў па развіцьцю сыстэмы ўдзелу прафэсійнікаў "трэцяга сэктару" ў сетцы TRAINET. Удзельнікі аб'ядналіся ў праектныя групы, дзе абмяркоўвалі лініі далейшага супрацоўніцтва, складалі канцэпцыі шматбаковых сумесных праектаў, разьмяркоўвалі функцыі ў віртуальнай супольнасьці.

Разам з калегамі з Фонду "Стратэгія" (арганізатары канфэрэнцыі і адміністратары сеткі TRAINET), а таксама з прадстаўнікамі НГА з Калугі й Масквы мы распрацоўвалі праект па развіцьцю ўзаемадзеяньня некамэрцыйных арганізацыяў эўрарэгіёну "Нёман".

**"Да пабачэньня, Расея"**

Зноўку дзьве з паловай гадзіны ў экспрэс-электрычцы. Зноўку прагулка па Маскве. Зноўку Беларускі вакзал расейскай сталіцы...

"Увага! Цягнік №77 "Масква - Гародня" адпраўляецца. Шчасьлівага шляху!" - нязвыкла чуць беларускія словы на расейскам вакзале. Але вельмі прыемна. Да пабачэньня, Расея. Прывітаньне, Беларусь!

**Віталь Нікановіч,**
**e-mail:**
**vnikanovich@yahoo.com**

# Вострыя куты сямейнага жыцьця

**Менавіта пад такой назвай ужо дзявяты месяц запар праводзяцца вельмі цікавыя й карысныя для маладых хлопцаў і дзяўчат Слоніму сустрэчы гутаркі з псыхолягам, доктарам і юрыстам, арганізаваныя грамадзкім аб'яднаньнем "Сям'я. Дзеці. Будучыня" ў межах праекту сацыяльна-псыхалягічнай дапамогі для маладой сям'і.**

Не бязь цяжкасьцяў пачыналася гэтая праца па ажыцьцяўленьні разумнай і своечасовай прафіляктыкі канфліктаў і разводаў у сем'ях слонімцаў. Але высілкі ініцыятараў гэтага праекту: кіраўніка асацыяцыі Генадзя Урбановіча, супрацоўніц і валянтэрак Сьвятланы Копаць, Ліліі Брайчук і многіх іншых, зацікаўленых гэтай справай, далі свой плён. У 2001 годзе лічба разводаў у Слоніме зьнізілася да 244, а гэта значыць, што многія сем'і змаглі своечасова скарыстацца бясплатнай кансультацыйнай мэдыка-псыхалягічнай дапамогай асацыяцыі "Сям'я. Дзеці. Будучыня" - зьберагчі свой "родны кут" - сям'ю, любоў і адказнасьць паміж сабой і сваімі дзецьмі, якія заўжды хочуць бачыць сваіх бацькоў толькі разам. Узяўшы пад ўвагу лічбы статыстыкі, мы бачым, што у 2000 годзе ў Слоніме, калі прафіляктычная праца яшчэ не праводзілася, узровень разводаў у суадносінах да шлюбаў складаў 71,12%. А ў 2001 годзе ў выніку дзейнасьці праекту сацыяльна- псыхалягічнай дапамогі для маладой сям'і, лічбы выразна зьменшыліся да ўзроўню ў 57,27%. Так і хочацца крыкнуць- малайцы й гэтак трымаць!

Падзяляючы радасьці гэтай маленькай, але вельмі значнай перамогі каханьня над канфліктамі ў сем'ях, хочацца выказаць словы шчырай удзячнасьці Амбасадзе Нідэрляндаў у Варшаве, асыстэнту Bilateral Programmes Камале Лагхаце за тую важную і своечасовую падтрымку добрых намаганьняў і карысных справаў грамадзкага аб'яднаньня "Асацыяцыі "Сям'я. Дзеці. Будучыня" у адзначаным вышэй праекце.

Плённая праца працягваецца й надалей. 14 лютага ў Дзень усіх закаханых супрацоўнікі зноў апынуліся сярод сваіх, на гэты раз - малодшых сяброў, у школах Слоніму, каб пацікавіцца (глядзеце на здымках) іх меркаваньнямі наконт таго, што яшчэ патрэбна зрабіць, каб кожная сям'я жыла ў любові і згодзе, а мы з вамі (і маладзейшыя і старэйшыя) ня біліся раз за разам аб гэтыя "вострыя куты" сямейнага жыцьця.

Шчасьця ўсім і добрай дарогі для нашай Роднай Беларусі.

**Галіна Данільчык, Слонім.**







# Новы погляд на Стары Сьвет

**Чатырнаццаць беларускіх студэнтаў з розных ВНУ наведалі ў канцы мінулага года Галяндыю, дзе знаёміліся з жыцьцём тамтэйшага студэнцтва, з працай студэнцкага самакіраваньня ў навучальных установах гэтай краіны. Паездка адбывалася ў межах праекту Задзіночаньня беларускіх студэнтаў і іх галяндзкіх калегаў, накіраванага на стварэньне ворганаў студэнцкага самакіраваньня ў нашай краіне. Сваімі ўражаньнямі ад паездкі дзеліцца сяброўка грамадзкага аб'яднаньня "Віт", студэнтка 3-га курса факультэта псыхалёгіі Гарадзенскага дзяржунівэрсытэта Марыя Багаслоўская (на здымку — справа).**



**Першыя ўражаньні**

Менск. Аэрапорт. Яшчэ хвіліна - і мы ў паветры. Файна! Адлегласьць да зямлі імгненна павялічваецца. Меншаюць родныя вёскі, лясы, палі.

Ляцім на заход сонца. Куды? У Нідэрлянды. Дзяржава на поўначы Эўропы. Сталіца Амстэрдам. 16 мільёнаў насельніцтва. Велізарная колькасьць дамбаў і іншых вадзяных загароджаў. Чвэрць тэрыторыі, адваяваная ў мора. Чым знаныя Нідэрлянды? Кветкі (у большасьці сваёй - туліпаны), гародніна, цудоўны сыр, мноства ветракоў. А яшчэ там жывуць харошыя людзі - добразычлівыя, вясёлыя, моцныя і, як кажуць самыя нідэрляндцы, "з адкрытым мысьленьнем".

Цікавае тое, што адкрытае ў іх ня толькі мысьленьне, але і ўсё жыцьцё наагул. Нам было дзіва падчас вечаровых шпацэраў бачыць вокны без фіранак, калі кожны мінак можа зазірнуць і паглыбіцца ў звычайнае жыцьцё якой-колвек сям'і, чалавека. "А навошта? Глядзеце. Нам няма чаго хаваць. Вокны зачыняюць толькі тады, калі сьцерагуцца паліцыі."

Дзіва таксама тое, што на вуліцы вам свабодна прапануюць наркотыкі на любы колер і густ. Яны легалізаваныя. Аднак, згодна статыстыкі, Нідэрлянды - краіна зь ці не найменшым узроўнем наркаманіі. Для нас гэта відавочны парадокс. Незвычайнымі для нас былі і многія паказчыкі жыцьця галяндзкіх студэнтаў.

**Урадавыя стыпэндыі**

Усім студэнтам, якія атрымліваюць вышэйшую адукацыю, дзяржава выплочвае стыпэндыю на гэткія штодзённыя патрэбы, як ежа, вопратка, арэнда пакою. Існуе добра адпрацаваная сыстэма, якая вызначае велічыню стыпэндыі для канкрэтнага студэнта. Найперш гэта залежыць ад месца вашага пражываньня. Калі гэта бацькоўскі дом, то вы атрымліваеце на 300 (курс гульдэна да даляра складаў тады прыкладна 2,5 да 1) гульдэнаў меней, чым калі б вы жылі адныя. Другі крытэр - агульны заробак вашых бацькоў. Усе, хто жыве самастойна, атрымліваюць ня менш за 450 гульдэнаў. Калі ў вас багатыя бацькі, то гэта ўся вашая стыпэндыя. Калі ж не - зможаце атрымліваць да 900 гульдэнаў. Стыпэндыю, большую за 450 гульдэнаў, атрымлівае, прыкладна, кожны трэці студэнт. Такім чынам, атрымліваецца, што замест ураду значную частку грошай за вас плацяць вашыя бацькі.

Дзевяцісот гульдэнаў недастаткова, каб ахапіць усе выдаткі студэнта. Таму можна ўзяць дзяржаўны крэдыт. У гэтым выпадку, агульная сума стыпэндыі можа сягаць да 1400 гульдэнаў штомесяц. Дык вось, калі вы атрымліваеце 450 гульдэнаў стыпэндыі, то дадаткова можаце разьлічваць яшчэ на 950.

Кожны студэнт мае права атрымліваць дзяржаўную стыпэндыю гэтак доўга, колькі спатрэбіцца. Большасьць студэнтаў навучаецца 4, а па тэхнічных спэцыяльнасьцях - 5 гадоў. Калі для атрыманьня вышэйшай або дадатковай вышэйшай адукацыі вам неабходна часу болей за гэты пэрыяд, то дазваляецца ўзяць новы крэдыт у дзяржавы тэрмінам да трох гадоў. Аднак, у гэтым выпадку, вы мусіце заплаціць 5,18% падатку (гэта ніжэй, чым у звычайных прыватных банках).

Таксама існуе комплексная сыстэма вяртаньня грошай студэнтам дзяржаве пасьля сканчэньня навучаньня.

**Студэнты і праца**

Большасьць студэнтаў намагаецца ня браць дзяржаўных крэдытаў, а зарабляць патрэбныя грошы самастойна. Для гэтага існуе вялікая колькасьць магчымасьцяў: праца ў рэста-

рацыях, супэрмаркетах, барах, кіроўцамі таксовак, турыстычнымі гідамі. Болей за 25% студэнтаў апроч навучаньня дадаткова мае працу. Яны атрымліваюць 12-20 гульдэнаў у гадзіну і працуюць 6-12 гадзін штотыдзень.

Таксама можна працаваць па сваёй спэцыяльнасьці. Прыкладам, праграмістам. Тады вы атрымаеце заробак у 20-30 гульдэнаў за гадзіну. Для студэнтаў гэта даволі выгодна.

### Куды выдаткоўваюць грошы

Сёньня жыхары Галяндыі зьяўляюцца вялікімі транжырамі ўласных грошай. Студэнты ў тым ліку. Ім патрэбная вялікая колькасьць грошай, каб добра прабавіць вакацыі, выправіцца ў падарожжа ўлетку і ўзімку. Апроч гэтага, трэба заплаціць за ўваход у клюб, на дыскатэку, набыць шыкоўную вопратку і г.д.

Студэнты не набываюць самаходаў, бо маюць права езьдзіць у грамадзкім транспарце задарма. А ў выходныя для іх дзейнічаюць 40%-ыя зьніжкі.

Атрыманьне вышэйшай адукацыі таксама каштуе пэўных выдаткаў - 3000 гульдэнаў штогод. Гэта - без набыцьця кніжак і іншых неабходных рэчаў. Кожны самастойна вызначае, якую суму й на што ён гатовы выдаткаваць. Для аднаго гэта 50 гульдэнаў, для іншага - 200. Найчасьцей усё залежыць ад спэцыяльнасьці, якую вы атрымліваеце, і ад стаўленьня да яе.

Агулам штомесяц студэнт выдаткоўвае:

- 300 гульдэнаў на ежу;
- 450 гульдэнаў на аплату арэнды пакойчыка або кватэры;
- 300 гульдэнаў на адукацыю;
- 150 гульдэнаў на набыцьцё новае вопраткі;
- 100 гульдэнаў на страхоўку;
- 200 гульдэнаў на цыгарэты й напоі;
- 100 гульдэнаў адкладаюць на вакацыі, выкарыстоўваюць у падарожжах і інш.

Як бачым, агульная сума, неабходная студэнту для нармальнага жыцьця, складае 1600 гульдэнаў штомесяц. Гэта значна больш за дзяржаўную стыпэндыю. Аднак памятайма, што маладзёны яшчэ й падпрацоўваюць.

### Навучаньне і быт

Галоўнае, што робяць студэнты ў Галяндыі, - гэта, натуральна, навучаюцца. На першым-трэціх курсах колькасьць навучальных гадзін вагаецца - у залежнасьці ад факультэту - ад 25 да 40 гадзін, чвэрць зь якіх складаюць практычныя заняткі. На старэйшых курсах колькасьць гадзін скарачаецца да 15-20 у тыдзень, а практыка павялічваецца й займае палову навучальнага працэсу.

Для нас было незвычайным тое, што студэнты займаюцца распрацоўкай праектаў, дзяржаўных замоваў па разьвязаньні розных праблем. Калі праект удалы - дзяржава падтрымае яго. А гэта выдатная пэрспэктыва атрымаць затым добрую працу.

Вялікі плюс у тым, што студэнты могуць самастойна выбіраць значную частку сваіх навучальных прадметаў. Акрамя выбару прадметаў магчымы і выбар выкладнікаў.

Адукацыя моцна арыентаваная на практыку, на падтрымку і разьвіцьцё інтарэсаў студэнтаў, іх ініцыятываў. Вось адзін з прыкладаў. У тэхнічным унівэрсытэце места Дэлфт штогод адбываецца абавязковы для другакурсьнікаў аднаго з факультэтаў спабор. Па заданьні журы, з абранага "будаўнічага матэрыялу" (гэтым разам ім былі спагеці і клей) удзельнікі спабору за некалькі гадзін мусяць пабудаваць вежу вышынёй 75 см. Пераможцай абвяшчаецца каманда, вежа якой вытрымае нагрузку ў 3 кг на працягу 2-х хвілін і пры гэтым будзе самай лёгкай з усіх пабудаваных канструкцыяў. Такім чынам, да прыкладу, будаваліся масты. Самы моцны зь іх вытрымаў груз у 57 кг! Ці трэба казаць, што такія спаборы - падзея ў жыцьці ўсяго ўнівэрсытэта?!

Жывуць студэнты, як і ў нас, у розных месцах. Хтосьці здымае невялікую кватэру, хтосьці жыве з бацькамі, хтосьці - у сужывецтвах. Інтэрнаты нічым не адрозьніваюцца ад звычайных жылых дамоў - хіба што вэрхалу крыху больш. Няма камэндантаў, дзяжурных, адміністратараў. Студэнт - сам гаспадар свайго жыльля. Далей парогу безь ягонага дазволу ніхто з "начальства" зайсьці ня мае права.

На адным паверсе сужывецтва жыве 16-18 чалавек. Кожны мае свой пакойчык, агульныя прыбіральню й лазенку, а таксама адзін на ўсіх вялікі пакой, дзе ладзяцца вечарыны, адбываюцца сустрэчы і г.д.

Кожны паверх мае свае правілы, якія выконваюцца ўсімі жыхарамі. У адным з інтэрнатаў, да прыкладу, ёсьць наступнае правіла: калі хтосьці із студэнтаў выяжджае, то суседзі самі падбіраюць сабе новага суседа. Для гэтага праводзяцца суразмова, адбор. У падобных выпадках амаль не бывае супярэчнасьцяў, канфліктаў, іншых нэгатыўных момантаў. Усе сябруюць паміж сабой, усьміхаюцца адзін аднаму.

Мне гэта падабаецца...

## Рэгіянальны зьезд маладзёвых арганізацыяў

7 студзеня ў Смаргоні адбыўся I рэгіянальны зьезд маладзёвых дэмакратычных арганізацыяў і ініцыятываў Смаргонскага, Ашмянскага і Астравецкага раёнаў. На мерапрыемстве прысутнічалі лідары і актывісты 12 маладзёвых арганізацыяў і ініцыятываў.

Адным з найважнейшых вынікаў сустрэчы сталася зацьверджаньне праграмы дзейнасьці маладзёвых дэмакратычных арганізацыяў і ініцыятываў на 2002 год. Праграма прадугледжвае дзейнасьць, накіраваную на разьвязаньне мясцовых праблем, удзел маладзёвых арганізацыяў у парляманцкіх выбарах і інш.

Гэтаксама пастанавілі стварыць адзіную рэгіянальную каардынацыйную структуру на грунце кааліцыі "Маладзёвы дэмакратычны рух" (Смаргонь, лідар Анатоль Мікішоў), ІТЦ "Рэгіён" (Ашмяны, лідар Пятро Явідовіч) і Астравецкага раённага маладзёвага грамадзкага аб'яднаньня "Віленскі тракт" (лідар Андрэй Шадура).







# Саша Буйко: "Мая свабода скончаецца там..."

*Асабіста мне з Саняй размаўляць вельмі лёгка. Няма той фамільярнасьці, пыхі, штучнасьці, якая часта прысутнічае ў стасунках зь дзяўчатамі. Саня належыць да прадстаўнікоў субкультуры, а таксама да Канфэдэрацыі дзеючых суполак "Разам".*

*Саня скончыла ПТВ №41 па спэцыяльнасьці швачка-матарыстка, адначасова атрымала сярэднюю адукацыю ў вечаровай школе. Надумала быць "працоўнай клясай", але гэта ёй не спадабалася. Пасьля павучылася на сакратарку і тры гады працавала па спэцыяльнасьці. Ужо тады зразумела, што гэтая праца таксама не для яе. Цяжка было - не хапала грошаў, здараліся канфлікты з бацькамі. Але пасьля Сашка занялася сваімі справамі, і цяпер, па яе словах, нават хапае на падтрыманьне порткаў. І ў сям'і, як гавораць палякі, "swknty spokij". Зараз навучаецца на пятым курсе завочнага аддзяленьня гістарычнага факультэту ГарДУ. А таксама - ці то ад суму, ці ад інтарэсу да польскай культуры - паступіла ў Беластоцкі ўнівэрсытэт.*

**- А ў будучыні чым плянуеш заняцца?**

- Вельмі хацелася б паспрабаваць калі-небудзь у жыцьці папрацаваць у альтэрнатыўнай школе. У Польшчы такія толькі пачынаюць адчыняцца, там будуць працаваць паводле новых альтэрнатыўных выхаваўчых сыстэмах. На жаль, гэта нават не бліжэйшыя пляны. Хацелася бы гэтак зьмяніць адукацыю, каб яна была, сапраўды, адукацыяй для свабоды.

**- А праз які час гэта будзе рэальна ў Беларусі?**

- Ведаеш, наконт Беларусі я наагул не бяруся нешта прадказваць. Гадоў праз дваццаць, як мінімум. Мы вельмі адсталі. Ува ўсіх адносінах.

**У слове "субкультура" прыстаўка "суб-" азначае голае структурнае супрацьстаяньне, якое накіраванае супраць зьяваў вялікай культуры. Прадстаўнікі субкультуры маюць культуру ўласную, уласную настолькі, што маючы агульную зь вялікай культурай размоўную мову, яны ўкладаюць у тыя ж словы іншыя адчуваньні, іншыя паняцьці. За ўсім гэтым стаіць прынцыпова іншая сымболіка. Яны носяць іншую вопратку, сьпяваюць іншыя песьні, чытаюць іншыя вершы...**

**- Чым ты адрозьніваесься ад іншых?**

- Напэўна... звычкай не здавацца па дробязях. Вось і ўсё. Не "абломвацца" па дробязях.

**- Калі табе кажуць: "Не бярыся за гэтую справу, бо нічога не атрымаецца!" - як ты дзейнічаеш?**

- Ну, па-першае, што гэта 100%-ы "аблом", я павінна адчуць сама. Тое, што мне скажуць, яшчэ мала значыць. Па тэлевізары таксама шмат чаго гавораць. Калі ж я пераконваюся, што гэта не атрымаецца, то, вядома, - разварот. Я стараюся сябе супакоіць, па-іншаму да гэтага паставіцца, альбо проста адмовіцца. Чым больш у жыцьці падобных цяжкіх сытуацыяў, тым больш загартоўваецца характар. У жыцьці ёсьць і белае, і чорнае. Гэтаксама, як прызвычайваесься да добрага, ты павінен прызвычаіцца да кепскага. Тады ў гэткай сытуацыі ты не губляеш галавы й неяк адразу шукаеш выйсьце, "скачаш на лапы". Таму "абломы" - вельмі вялікая рэч. Мне здаецца, што я стараюся абіраць вельмі простыя шляхі, і яны, на маю думку, - заўсёды з "абломамі".

**-У якіх колерах ты бачыш гэты сьвет?**

-Канечне, з раніцы ўсё выбітна. Дажываеш да вечара па-рознаму. Але гэта нармалёва.

**-Я ведаю, што ты сьпяваеш ў гурце "Contra la Contra". Як ты туды патрапіла?**

-Мы разам граем амаль два гады. Хлопцы гралі безь мяне паўгады. Шмат з таго часу зьмянілася: і вакаліст, і бубнач. Былы ўдарнік, калі сыходзіў, сказаў: "Вы аніводнага канцэрта не зладзіце". Vasil, які да гэтага часу граў на гітары, сам засеў за бубны (выйсьця не было: нешта складана ў нас у го-

радзе з бубначамі) і перавучыўся. Малайчына. У яго гэта атрымалася. Мяне ўзялі на вакал: я наагул не разумею, чаму! Я й дасёньня да сцэны не прызвычаілася. Шчыра прызнаюся, што ўва ўсім гэтым я ўдзельнічала зь сяброўскіх памкненьняў, "типа помочь". Пасьля ўжо - каб "не запороть" добрую справу. Дарэчы, я таксама была ўпэўненая, што мы ня зладзім аніводнага канцэрту. Дзесьці год я хадзіла на рэпэтыцыі, каб пабурштаваць, таму што людзі харошыя й мы добра й вясёла бавілі час. Пазьней мы надумалі запісацца, бо проста былі вольныя грошы. Гэты запіс чыста выпадкова трапіў у патрэбныя рукі і ў патрэбны час, і мы замест гуртоў "Deviation" і "Кальян" паехалі па малазёваму абмену ў Нямеччыну.

**-Ці шмат вы далі за гэты год канцэртаў і ў якіх краінах?**

-Пабывалі ў Нямеччыне, Летуве, Польшчы і, натуральна, у Беларусі. Далі 16 канцэртаў.

**-У чым адметнасьць моладзі, якая прыходзіць да вас на канцэрты?**

-Па-першае, вядома, гэта субкультура: панкі і г.д. На маю думку, гэта лепшы пласт моладзі. Але мой пункт гледжаньня, канечне, не аб'ектыўны, паколькі я сябе да гэтай сукультуры адношу. Але так альбо інакш, мне падабаюцца гэтыя людзі, мне падабаецца рабіць ім нешта прыемнае.

**-Чым цябе ўражвае замежжа?**

-Больш за ўсё, як я заўважыла, мяне ўражваюць людзі. Дзе чалавек харошы - тую краіну я й буду любіць. Дзе чалавек ніякі - тая краіна, хутчэй за ўсё, ніякай й застанецца. Насамрэч, краіны - гэта асноведзь. Эўропа выглядае гэтаксама, як любая рэкляма, зьнятая ў Эўропе. Нічога экстра-супер там няма, калі ты пераканаешся, што гэта так. Мяне не цікавяць ані поўныя супэрмаркеты, ані дарагія машыны: гэта ўсё асноведзь, а вось якія людзі, гэта ўжо іншая справа. Вельмі шмат сяброў у мяне ў Польшчы, і Польшчу я вельмі люблю. Усе яе бачаць па-рознаму. Калі аб'ектыўна ставіцца, то там таксама ёсьць шмат нэгатыўных элемэнтаў. Але для мяне Польшча як другая Бацькаўшчына. Менавіта з-за таго, што там сябры.

**-Ці ёсьць за мяжой нейкія спэцыфічныя буршты, якіх у нас пакуль што няма?**

Уся спэцыфічнасьць у дачыненьні да субкультуры толькі ў тым, што за мяжой гэта пачалося крыху раней і мае большыя памеры, нейкую базу і... Відаць, што гэта надоўга. Шмат пастаянных людзей, шмат пастаянных ідэяў і праектаў, якія рэалізуюцца на практыцы.

**-Як дзяржава ставіцца да альтэрнатыўных гуртоў, да прыкладу, у Нямеччыне?**

-Там на гэта заплюшчваюць вочы і, у нейкай ступені, дзейнасьць гэтых гуртоў рэалізуецца. Гэта ўсё квітнее й пахне настолькі, наколькі гэта можа квітнець і пахнуць. Ёсьць, вядома, разгоны дэманстрацыяў, ёсьць высяленьні із сквотаў, ёсьць паліцыя, якая разганяе канцэрты. Але там гэта на ўроўні падзеі, пра якую будуць казаць год, а нават і больш. Тут гэта - рэчаіснасьць. Ува ўсё, што ты будзеш рабіць, "ворганы" будуць умешвацца.

**-У чым, на тваю думку, адметнасьць беларусаў?**

-Хаця я й нарадзілася ў Расеі, але я лічу сябе 100%-ай беларускай. Не расейка я - гэта дакладна! Адметнасьць беларусаў, я думаю, у тым, што яны ўсё-ткі пасіўныя й шэрыя. Самыя сябе гэткімі зрабілі, самыя сябе такімі лічаць і працягваюць сябе так паводзіць. Гэтая гатоўнасьць заўсёды схіліць галаву: "абы чаго ня выйшла". Рэдка хто самастойна пачынае думаць, самастойна нешта рабіць. Кепска, што сюды вельмі імкліва пранікае т.зв. "капіталістычны спосаб мысьленьня", ідэя пра амэрыканскую мрою і ўсё, што зь ёю зьвязанае - спажывецтва, "культ давольства": набыў - і табе добра, ты маеш - і табе добра. Усё гэта нівэлюе жахліва й робіць людзей шэрымі. Яны ходзяць у адныя й тыя ж супэрмаркеты, яны набываюць адныя й тыя ж рэчы, яны глядзяць адныя й тыя ж праграмы, яны захапляюцца аднымі й тымі ж творамі мастацтва. І хаця, гэта ўсё будзе першагатунковым - людзі будуць аднолькавымі, шэрай масай. Нейкіх арыгінальных, цікавых людзей - адзінкі. Ідэі нешта зьмяніць больш прыжываюцца сярод моладзі. Накont старэйшага пакаленьня ў мяне абсалютна няма ружовых акуляраў. Толькі з моладзьдзю можна нешта зьмяняць.

**-Якой павінна быць, на тваю думку, моладзь?**

-Перш за ўсё Свабоднай. Свабода мусіць быць знутры. Калі ў чалавека ў галаве краты, міліцыя, то ён будзе скуты па руках і нагах. Гэта будзе яго нутраная міліцыя, яго краты. Калі будзе Свабода ў яго галаве - ён будзе жыць свабодна і рэалізаваць сябе напоўніцу.

**-Ты лічыш сябе анархісткай?**

-Так. Як ідэя пра палітычнае ўладкаваньне сьвету, мяне анархізм задавальняе. Але яшчэ анархізм для мяне - гэта стыль жыцьця. Мая свабода сканчаецца там, дзе пачынаецца свабода іншага чалавека. Гэтага я прашу й ад іншых. Я лічу сябе самастойнай і незалежнай ад сям'і, ад дзяржавы, ад нейкіх іншых уплываў. Я проста стараюся думаць самастойна. Ёсьць некаторыя ідэі й аб уладкаваньні навокал мяне, але гэта пакуль што ідэі. Дарэчы, Канфэдэрацыя дзеючых суполак "Разам", ідэя якой - аб'яднаньне ўсіх левых і анархічных сіл і людзей, была створана ў сакавіку 2001 году. Гэта адна із спробаў сабраць левыя сілы праз альтэрнатыўна-культурніцкую й выдавецкую дзейнасьць. Штомесячна выдаецца газэта "Разам", якая распаўсюджваецца бясплатна. Існуе таксама альтэрнатыўна-культурніцкі кірунак: канцэрты, падтрымка некамэрцыйных рок-гуртоў і г.д.

**-А з фэмінізмам ты сябе атаясамляеш?**

-Атаясамляць сябе з фэмінізмам я ня буду. Я не магу сябе лічыць фэміністкай таму, што я не змагаюся за правы ўсіх жанчын. Я адстаяла сваю нейкую ўласную свабоду, альбо права. Але я гэта рабіла іншымі спосабамі, і не ў гэтую мэту я біла. Проста не было такога раскладу: "Я жанчына, і таму я гэта раблю." Зыходзіла ўсё з таго, што я чалавек і я не магу жыць гэтак, гэтак і гэтак.

**-У чым ты знаходзіш супакой?**

-Доўгі, доўгі шпацыр пешкі, кілямэтраў на дзесяць і проста дыхаць сьвежым паветрам. Самае тое...

**Падрыхтавала Лана Руднік**

## Адукацыйныя ініцыятывы навучаюцца

**14 – 16 лютага ў Гародні адбыўся сэмінар "Развіцьцё дзейнасьці адукацыйных ініцыятываў Гарадзеншчыны". адзіла мерапрыемства Гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне маладых навукоўцаў "ВІТ".**

Мэтай сэмінару было атрыманьне ўдзельнікамі ведаў і ўменьняў па эфэктыўнай працы адукацыйных ініцыятываў із сваімі кліентамі і навучаньне выкладаньню ў сваёй дзейнасьці новых тэм: "Дэмакратычнае лідэрства" і "Плянаваньне".

Сэмінар праводзіўся ў межах праекту "Школа трэнэраў", які рэалізуюць Адукацыйны цэнтар "ПОСТ" (Менск) і SV (Стакгольм).

# Акт добрай волі

**Напярэдадні Новага году сябры грамадзкага аб'яднаньня "Воля да разьвіцьця" наведалі 14 сем'яў слонімцаў, дзе жывуць маленькія інваліды-калясачнікі, хворыя на цэрэбральны паралюш. Кожнаму дзіцяці быў уручаны падарунак самім Дзедам Марозам, які разам із Сьнягурачкай павіншавалі дзетак з навагоднімі сьвятамі і з Калядамі.**

Дзеці і бацькі былі вельмі ўзрушаныя й доўга не хацелі адпускаць гасьцей. Мабыць, яшчэ больш станоўчых эмоцыяў атрымалі самыя Дзед Мароз (Ірына Кучура) і Сьнягурачка (Наталя Трус).

Адрасы дзяцей былі знойдзеныя праз нефармальныя кантакты - "ад сям'і да сям'і". Знаёмства пачалося ў лістападзе 2001 году з працай дзіцячага садку № 17 для непаўнасправўных дзяцей, калі яго наведалі кіраўнік грамадзкага аб'яднаньня "Воля да разьвіцьця" Міхась Варанец і нямецкая сацыял-дэмакратка з Кобургу спн. Карнэлія Розбэрг.

Але найбольш уразіла ўсіх знаёмства з Жэнем Русаком, 13-гадовым хлопчыкам, хворым на цэрэбральны паралюш. Клопат дзяржавы аб такіх дзетках, якія, па стану здароўя, ня могуць наведваць дзіцячы садок і школу, - недастатковы. Найперш ім бракуе стасункаў з аднагодкамі. А бацькі вымушаныя кінуць сваю працу і ўвесь час знаходзіцца побач зь дзіцём. Месячная пэнсія па дагляду за хворым дзіцём роўная 33 тысячам рублёў. За гэткія грошы цяжка знайсьці ахвотнікаў, каб даглядаць хворае дзіця.

Тады і ўзьнікла ідэя правесьці акцыю, якая б падштурхнула бацькоў гэтых дзяцей да самаарганізацыі, узаемадапамогі. Канчатковая мэта - дапамагчы дзецям-інвалідам вырвацца з ізаляцыі, у якой яны цяпер знаходзяцца, і максымальна інтэгравацца ў грамадства. Першыя вынікі ўжо ёсьць. Бацькі ўсіх чатырнаццаці дзяцей надумалі сабрацца разам на сход, каб абмеркаваць магчымасьці супольнай дзейнасьці і ўзаемадапамогі. Прыйшла вестка зь Нямеччыны ад спн. Розбэрг, якая паведаміла, што адзін зь дзіцячых садкоў Кобургу мае намер наладзіць партнэрскія стасункі зь дзіцячым садком № 17 Слоніму. А сама сп. К.Розбэрг адправіла пасылку для дзяцей, хворых на цэрабральны паралюш. Найбольш грошай на падарункі ахвяравалі сябры "Волі да разьвіцьця" і слонімскі прадпрымальнік Сяргей Данько. Грамадзкае аб'яднаньне "Воля да разьвіцьця" зацікаўленае ў сувязях з арганізацыямі і ініцыятывамі, якія працуюць зь дзецьмі-інвалідамі.

Кантакты: вул. Косаўскі Тракт, 118-56, 231800 Слонім, ГА "Воля да разьвіцьця"; тэл.:5-13-77 (Наташа), 4-22-14 (Міхась).

**Міхась Варанец**



# Сумесная дапамога грамадзянскім ініцыятывам па правох чалавека



**З мэтай падтрымкі мясцовых ініцыятываў па прапагандзе й абароне правоў чалавека, Вярхоўны камісар па правох чалавека ААН сумесна з Праграмай развіцьця ААН (ПРААН) заснавалі ACT Project (Праект сумеснай дапамогі грамадзянскім ініцыятывам) для фінансавай падтрымкі - праз выдаткаваньне мікрагрантаў - мерапрыемстваў, якія ладзяцца грамадзкімі арганізацыямі і прыватнымі асобамі.**

Фінансавыя сродкі будуць выдаткоўвацца на мерапрыемствы з адносна невялікім бюджэтам (да US$ 5000), аднак здатныя зрабіць важны ўнёсак у прапаганду й абарону правоў чалавека ў Беларусі.

Фінансаваньне можа быць выдатkаванае на правядзеньне наступных відаў дзейнасьці:

- прадстаўленьне адукацыйных матэрыялаў па правох чалавека мясцовым школам і бібліятэкам;
- стварэньне куткоў па правох чалавека ў школах і бібліятэках;
- радыёперадачы аб Усеагульнай Дэкляраццы па правох чалавека;
- стварэньне вэб-пляцовак па правах чалавека;
- агляд стану правоў чалавека на мясцовым узроўні (у межах заканадаўства/практыкі);
- арганізацыяназіраньня за судовымі працэсамі, якія закранаюць правы чалавека і г.д.

У межах ACT project перавага будзе аддавацца заяўльнікам з улікам наступных момантаў:

- аўтары заяўкі маюць адносіны да сфэры адукацыі і навучаньня правам чалавека, адвакатуры і іншых галінам, зьвязаным з правамі чалавека на мясцовым узроўні;
- агульны бюджэт арганізацыі, якая падае заяўку, не дае магчымасьцяў для ажыцьцяўленьня праекту;
- праекты, сфакусаваныя на правох жанчын і дзяцей.

Форму заяўкі на грант можна атрымаць у Офісе ПРААН па адрасе:

г. Менск, вул. Кірава, 17, альбо на вэб-пляцоўцы www.un.minsk.by

Форма павінна быць запоўненая ў ангельскай альбо расейскай мовах.

Апошні тэрмін падачы заяўкі - 15 сакавіка 2002 году.

# Праграма малых грантаў Charity Know How



**Фонд Charity Know How (СКН) распачынае праграму малых грантаў (да $15000) на 2002 год.**

Праграма накіраваная на абмен досьведам паміж грамадзкімі аб'яднаньнямі Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, а таксама новых незалежных дзяржаваў. Праект павінен уключаць значныя элемэнты "ноў-хаў". Таксама могуць быць зьмешчаныя праграмы трэнінгаў для супрацоўнікаў і валянтэраў НГА, прафэсійныя кансультацыі і навучальныя паездкі. У адпаведнасьці з генэральнай праграмай, зьявіліся дзьве новыя схемы: Global Grants, што спрыяюць сувязям паміж арганізацыямі ў Азіі, Афрыцы ці Лацінскай Амэрыцы і Partnership Development Grants, накіраваныя на развіцьцё доўгатэрміновых партнэрскіх сувязяў паміж НГА.

**Прапановы**

Праграма СКН не фінансуе: індывідуальныя праграмы, навучаньне ангельскай мове як замежнай ці іншыя студэнцкія праграмы, любое будаўніцтва, фінансавыя выдаткі на перавозку гуманітарнай дапамогі ці мэдычнага абсталяваньня, нутраныя выдаткі (арэндная плата, абсталяваньне), а таксама культурны абмен.

Будуць праведзеныя два туры па грантах. Апошні тэрмін прыняцьця аплікацыйных формаў - 27 лютага і 27 жніўня 2002 году.

Прыярытэты будуць аддавацца праектам на тэмы: міжнароднае супацоўніцтва ў межах наступных рэгіёнаў (Балканы і Карпаты, Каўказ, Цэнтральная Азія, СНД); супрацоўніцтва, пры якім уменьні і "ноў-хаў" перадаюцца ад больш дасьведчаных менш абазнаным НГА, нядаўна заснаваным арганізацыям. Супрацоўніцтва, што ўключае доўгатэрміновыя стасункі паміж арганізацыямі вітаецца больш за кароткатэрміновае супрацоўніцтва, разлічанае на тэрмін дзеяньня праекту.

Больш дакладную інфармацыю і аплікацыйныя формы можна атрымаць на сайце www.allavida.org ці па e-mail: enquiries@allavida.org.

# Трэнэраў - у базу

**Асамблея няўрадавых арганізацыяў стварае банк зьвестак па беларускіх трэнэрах.**

Каб патрапіць у банк зьвестак, трэба даслаць у Выканаўчае бюро Асамблеі ліст з пазначэньнем сваёго імя і прозьвішча, апісаньнем трэнэрскага досьведу, пералікам тэм, па якіх вы працуеце, а таксама свой фатаздымак.

Інфармацыю трэба накіроўваць на e-mail: ngo@user.unibel.by





**Прапановы**

# Праграма TACIC па партнэрству і інстытуцыянальным разьвіцьці

**Праграма, якая падтрымлівае грамадзянскую супольнасьць і мясцовыя ініцыятывы распрацаваная з мэтай дапамогі ў станаўленьні арганізацыяў пры пераходзе да рынкавых адносінаў з мэтай узмацненьня дэмакратыі ды грамадзянскай супольнасьці, а таксама замацаваньня вяршынства закону, праз усталяваньне партнэрскага ўзаемадзеяньня паміж недзяржаўнымі арганізацыямі (НГА), мясцовымі і раённымі ворганамі ўлады і прафэсійнымі некамэрцыйнымі арганізацыямі Эўрапейскага Зьвязу і іх калегамі з краін, якія ахопліваюцца праграмай TACIC.**

Агульная мэта складаецца ў падтрымцы шырокага кола базавых арганізацыяў, збольшага нядаўна створаных (НГА, прафэсійныя некамэрцыйныя арганізацыі).

Іх разьвіцьцё будзе стымулявацца шляхам сумеснага ажыцьцяўленьня праекту з арганізацыяй-партнэрам з Эўрапейскага Зьвязу. Мэтай падобных праектаў будзе дасягненьне канкрэтнае задачы (да прыкладу, адкрыцьцё новага віду дзейнасьці - паслуг) праз правядзеньне сумесных мерапрыемстваў, аднак канчатковай мэтай ёсьць ўзмацненьне мясцовай арганізацыі-партнэра з СНД ці Манголіі.

Дзьве асноўныя мэты праграмы складаюцца ў падтрымцы разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці і мясцовых інстытуцыяў, г.зн:

1) падтрымаць арганізацыі, якія дапаўняюць працу цэнтральных дзяржаўных ворганаў улады;

2) спрыяць разьвіцьцю ініцыятываў, якія нараджаюцца на мясцовым ўзроўні, у прыватнасьці, у рэгіёнах.

Канцэпцыя партнэрства палягае на тым, што арганізацыі-партнэры з Эўрапейскага Зьвязу і краін TACIC хочуць дасягнуць адзінае мэты, і ў сваёй штодзённай дзейнасьці сутыкаюцца з падобнымі праблемамі, але ў розных умовах.

Мяркуецца, што ўсталяваныя й замацаваныя з дапамогай гэтага праекту ўзаемаадносіны будуць працягнутыя й пасьля заканчэньня фінансавае падтрымкі з боку Эўразьвязу.

### Рамкі праграмы

У аснове праграмы ляжыць разьвіцьцё грамадзянскай супольнаці й мясцовых інстытуцыяў. Спаборавыя заяўкі павінны адлюстроўваць партнэрства паміж НГА, ворганамі мясцовага самакіраваньня, а таксама прафэсійнымі некамэрцыйнымі арганізацыямі Эўразьвязу і краін TACIC у рамках трох катэгорыяў:

а) недзяржаўныя арганізацыі, якія працуюць ў сацыяльным сэктары ці ахове здароўя, асацыяцыі спажыўцоў, абшчынныя арганізацыі, групы па абароне навакольнага асяродзьдзя і г.д.;

б) ворганы мясцовага і раённага самакіраваньня, такія як месты, вобласьці ці раёны.

в) прафэсійныя некамэрцыйныя арганізацыі (асацыяцыі малога й сярэдняга бізнэсу (МСБ) ці прадпрымальнікаў, гандлёвыя палаты, гандлёвыя асацыяцыі, прафзьвязы).

### Сэктары ці тэмы, якія могуць буць падтрыманыя:

- пытаньні, зьвязаныя з рэфармаваньнем дзяржаўнага кіраваньня;
- пытаньні разьвіцьця гандлю, эканомікі; дапамога малому й сярэдняму бізнэсу (МСБ); грамадзкае, прыватнае партнэрства, ініцыятывы па зьніжэньню ўзроўню беспрацоўя, прафэсійна-тэхнічная адукацыя, сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё (да прыкладу. сацыяльны дылёг, абарона правоў спажыўцоў) і г.д.;
- сацыяльныя пытаньні: сацыяльная рэінтэграцыя маргінальных груп насельніцтва, разьвіцьцё ўстойлівай аховы здароўя і сацыяльнай абароны (да прыкладу, дапамога састарэлым, ахвярам ВІЧ-СНІД і г.д), дапамога неабароненым жанчынам і іншым катэгорыям мясцовага насельніцтва, і г.д.;
- пытаньні мясцовага кіраваньня: гарадзкія камунальныя службы (да прыкладу, арганізацыя збору і зьнішчэньня сьмецьця, кіраваньне сьцёкавымі водамі, транспарт, энэргазабесьпячэньне), гарадзкое і раённае плянаваньне, службы аховы здароўя ды адукацыі, ЖКГ, турыстычныя службы і г.д.;
- экалягічныя пытаньні: забруджваньне навакольнага асяродзьдзя, эфэктыўнасьць выкарыстаньня энэргіі, экатурызм, і г.д.

**Для Беларусі прыярытэтнымі накірункамі для супрацоўніцтва зьяўляюцца:**

1. спрыяньне ў інстытуцыянальным, прававым і адміністратыўным рэфармаваньні;
2. спрыяньне ў разьвіцьці прыватнага сэктару й дапамога ў эканамічным разьвіцьці;
3. спрыяньне ў пераадоленьні сацыяльных наступстваў пераходнага пэрыяду да рынкавых адносінаў.

**Памер грантаў: мінімальная сума - 100.000 эўра, максымальная сума - 200.000 эўра. Працягласьць праекту ад 18 да 24 месяцаў. Апошні тэрмін падачы заявак — 8 сакавіка 2002 г.**

Заяўка павінна быць напісаная на ангельскай мове ў 5 копіях і дасланая па адрасе:

**European Commission**
**EuropeAid Cooperation Office L41 4//17, Unit A6**
**Rue de la Loi/Wetstraat, 200**
**B-1049 Brussels**

Пытаньні, зьвязаныя з напісаньнем можна накіроўваць па электроннай пошце альбо факсе на пазначаныя ніжэй адрасы, (не забывайце зрабіць спасылку на конкурс).

**Факс:+32 2 299 4701**
**e-mail: Fabrizio.Moroni@cec.eu.int**

Форму заявак можна знайсьці ў Інтэрнэце па адрасе:

**europa.eu.int/comm/europeaid/tender/index_en.htm**

Дапаможнік па напісаньні заяўкі ў электроннай форме можна замовіць ў грамадзкім аб'яднаньні "Цэнтр "Трэці сектар"



## Праграма стыпэндыяў імя Лэйна Кіркланда

**Польска-амэрыканскі Фонд свабоды (Polsko-Amerykanska Fundacja Wolnosci) сумесна з Польска-амэрыканскай камісіяй Фулбрайта (Polsko-Amerykacska Komisja Fulbrighta) абвяшчае адкрыты спабор на праграму стыпэндыяў імя Лэйна Кіркланда (Lane Kirkland Scholarship Program) на 2002-2003 акадэмічны год.**

Праграма ставіць за мэту перадачу й распаўсюд польскага досьведу ў галіне сыстэмнай трансфармацыі іншым краінам Усходняй Эўропы ў межах дадтковага двохсэмэстровага навучаньня ў польскіх вышэйшых навучальных установах сумесна із стажыроўкай у дзяржаўных і прыватных установах на працягу некалькіх тыдняў.

Праграма працуе ў наступных галінах: эканоміка й кіраваньне, грамадзкая адміністрацыя (ураду й самакіраваньня), бізнэс-адміністрацыя, права, палітычныя й сацыяльныя навукі.

Праграма Кірклана́да накіравана на прэтэндэнтаў, якія гатовыя выкарыстаць набытыя ў Польшчы веды і ўменьні, а таксама на прадстаўнікоў наступных асяродкаў: выкладнікі вышэйшых навучальных установаў, эксперты, палітыкі, супрацоўнікі ўрадавых установаў і самакіраваньня, прадпрымальнікі і мэнэджэры, лідары недзяржаўных арганізацыяў, журналісты.

Прэтэндэнты павінны быць ува ўзросьце да 35 гадоў (у выключных выпадках - да 40 гадоў), актыўна працаваць у сваім асяродку, мець значныя дасягненьні. Неабходна мець вышэйшую адукацыю (для кандыдатаў з вышэйшых навучальных установаў - пажаданая ступень доктара/кандыдата навук), ведаць польскую (альбо ангельскую) мову на ўзроўні, дастатковым для разуменьне лекцыяў і сэмінараў, досьвед працы па спэцыяльнасці - ня менш за 2 гады.

Неабходныя дакументы: заява (асабістая анкета з фатаздымкам, ліст з матывацыяй удзелу ў праграме і прапанановамі адносна ўдзелу ў праграме і плянамі, зьвязанымі зь яе заканчэньнем (да 2 старонак), Curriculum Vitae разам із сьпісам публікацыяў, два лісты з апісаньнем дасягненьняў і кваліфікацыі кандыдата і далейшых плянаў наконт яго разьвіцьця і працай на прафэсійным і грамадзкім полі (у польскай ці ангельскай мове). Лісты павінныя быць высланыя непасрэдна ў Камісію Фулбрайта асобамі, што рэкамэндуюць кандыдатаў; копія дыплёму (ці копія дыплёму кандыдата навук).

Для ўдзельнікаў праграмы прадугледжаная стыпэндыя эквівалентам $500. Таксама аплочваюцца ўнівэрсытэцкія выдаткі, пражываньне ў Польшчы, страхоўка, праезд у і з Польшчы, набыцьцё навуковых матэрыялаў. Прадстаўляецца кампутар і прынтар.

Апошні тэрмін дасыланьня заяваў - 11 сакавіка 2002 г. Арыгіналы дакумэнтаў трэба выслаць поштай па адрасе: Polsko-Amerykacska Komisja Fulbrighta, ul. Nowy Swiat 4, 00-497 Warszawa - Polska. Таксама можна даслаць копіі дакумэнтаў на e-mail: fulbright@fulbright.edu.pl ці u.moczydlowska@fulbright.edu.pl

Фармуляры для заяваў і інфармацыйныя матэрыялы можна замовіць поштай, па тэлефоне ці праз e-mail у Польска-амэрыканскай камісіі Фулбрайта па тэлефонах: (48-22) 628-7950; 625-6932; 625-6978. Матэрыялы таксама знаходзяцца на старонцы Камісіі Фулбрайта па адрасе: http://www.fulbright.edu.pl.

## "Пераадоленьне сацыяльнага выключэньня"

**15-16 лютага ў Гародні адбыўся сэмінар "Пераадоленьне сацыяльнага выключэньня", які ладзіла Прадстаўніцтва Ўсясьветнага Банку ў Беларусі.**

Удзельнікі сустрэчы з усёй Беларусі пазнаёміліся з досьведам арганізацый, якія працуюць з такімі сацыяльна неабароненымі групамі, як людзі з абмежаванымі фізычнымі магчымасьцямі, беспрытульныя, беспрацоўныя, уцекачы, мяншыні і г.д., абмяркавалі разнастайныя аспэкты дзейнасьці ў сфэры сацыяльнай рэабілітацыі і інтэграцыі ў грамадзтва вышэйназваных катэгорыяў насельніцтва.

Удзельнікам было прапанавана таксама навучаньне па такіх тэмах, як, прыцягненьне сродкаў, праектная праца і г.п. У межах сустрэчы быў кірмаш арганізацыяў-удзельніц і іх праектаў.

Падрыхтоўчую працу да сэмінара ажыцьцяўляла група грамадзкіх арганізацыяў, сустаршынямі якой выступаюць "Цэнтр сацыяльных інавацыяў" і дабрачыннае таварыства " Дапамога".

Мясцовым арганізатарам у Гародні зьяўлялася грамадзкае аб'яднаньне "Цэнтар "Трэці сектар".

Прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны маюць магчымасьць узяць удзел у іншых сэмінарах Усясьветнага банку. У сакавіку ў Баранавічах пройдзе сэмінар "Падлеткі і моладзь. Магчымасьці адукацыі, арганізацыя вольнага часу, сацыялізацыя, працаўладкаваньне". У ў Магілеве пройдзе сустрэча арганізацый, якія працуюць у галіне аховы здароўя. Пытаньні экалёгіі будуць абмяркоўвацца на красавіцкай сустрэчы на Віцебшчыне. На пачатку траўня ў Гомлі пройдзе сэмінар для арганізацый, якія займаюцца альбо плянуюць заняцца сацыяльным прадпрымальніцтвам. Каб заявіцца для ўдзелу ў гэтых мерапрыемствах, неабходна зьвязацца з Марынай Малінінай (тэл.: (0-17-284-05-44, e-mail: marina@olderan.by.com).

# Мы патрэбныя адзін аднаму!

**Прадстаўнікі больш чым ста грамадзкіх арганізацыяў, ініцыятываў, замежных фондаў і праграм пацьвердзілі сваё імкненьне атрымліваць наш часапіс і надалей. Акрамя таго, у нас зьявілася шмат новых падпісчыкаў з розных куткоў краіны.**

Гэткі вынік дала падпісная акцыя, праведзеная рэдакцыяй нашага выданьня адначасова з выхадам у сьвет мінулага нумару. Падобную кампанію мы робім раз на два гады для таго, каб выявіць рэальную патрэбу ў сваёй працы. Той, хто выдаваў хоць адзін нумар нейкага выданьня, ведае, колькі часу і сродкаў вымагае гэтая праца. У адрозьненьні ад "запушчаных заводаў і фабрык" працаваць "на склад" дазволіць сабе мы ня можам. Таму і стараемся распаўсюджваць "Трэці сэктар" адрасна - тым людзям, якія выказваюць ахвоту атрымліваць наш часапіс.

Сёлетняя кампанія пераўзышла нават самыя сьмелыя нашыя чаканьні. На працягу месяцу нашая паштовая скрынка поўнілася стосамі картак-заявак, якія былі укладзеныя ў папярэдні нумар. Асабліва прыемным было тое, што многія заяўкі суправаджаліся лістамі зь цёплымі словамі ў наш адрас. Вось толькі некалькі вытрымак з вашых допісаў:

*"Хочацца быць у курсе ўсіх падзеяў, якія адбываюцца ў грамадзкіх арганізацыях краіны. Любая праблема нашага грамадзтва так альбо інакш зьвязаная з палітыкай і эканомікай, і разьвязаньне гэтых праблем залежыць ад таго, наколькі зьменіцца. Але пакуль што гэта не прадбачыцца. Выснова адна: пакуль жанчын ня будзе пры ўладзе - асаблівых перамен не будзе. Жанчыны паўсюль на роўных правох, а ў нас - не. Як казала Сьвятлана Алексіевіч, мы бедныя, мы кепска жывем, але гэта добры хітрык для дзяржавы: беднымі лягчэй кіраваць. Зараз, калі выбары прайшлі і кожны новы дзень нясе ў сабе чарговае падвышэньне коштаў на ўсё, мы разумеем, што лепш ня будзе яшчэ чатыры гады. Але трэба жыць з тым, што ёсьць, жыць і працаваць, не апускаць рукі. Зазычым сабе цярпеньня, посьпехаў ува ўсіх нашых справах..."*

*"Не магу не адзначыць той велізарны ўнёсак, які зрабіў "Трэці сэктар" у станаўленьні й разьвіцьці нашай арганізацыі. Вялікі дзякуй!"*

*"Зь цікавасьцю чытаю нумары "Трэцяга сэктару", якія трапляюць мне ў рукі. Буду ўдзячны за прадстаўленьне мне наступных нумароў."*

*"Ваш часапіс выклікаў у нас вялікі інтарэс. Мы знайшлі ў ім шмат карыснай для сябе інфармацыі, у якой мелі патрэбу да гэтага часу."*

*"Дзякуй за часапіс і прапанаваную магчымасьць атрымліваць яго й надалей. Дарэчы, вельмі цікавы нумар. Амаль увесь прачытаў за адзін прысест. Думаю, што ў 2002 годзе становішча з атрыманьнем НГАшнай інфармацыі ў нашай арганізацыі істотна палепшыцца."*

*"Сардэчны дзякуй за часапіс "Трэці сэктар"! Калі б у нас у Віцебску быў гэткі часапіс пра трэці сэктар - было б выдатна. Дзякуй за тое, што Вы ёсьць!"*

Дзякуй вам, калегі, за зваротную сувязь і цёплыя словы! Для нас гэта найлепшы стымул для ўдасканаленьня нашага часапіса.

Сёньня мы зьвяртаемся таксама да тых людзей, хто - зь нейкае прычыны - не падпісаўся на нашае выданьне альбо трымае яго ўпершыню: мы рады будзем супрацоўнічаць з вамі! Наш часапіс дасылаецца бясплатна. Каб атрымліваць яго, трэба ў адвольнай форме даслаць нам заяўку, у якой трэба пазначыць свае імя і прозьвішча, назву арганізацыі ці ініцыятывы, якую вы прадстаўляеце, а таксама паштовы адрас, на які вы хацелі бы атрымліваць "Трэці сэктар".

Калі вы маеце магчымасьць карыстацца электроннай поштай, то да вашых паслуг прадстаўім дадатак да нашага часапіса - штотыднёвау электронную "Кроніку грамадзкага жыцьця Гарадзеншчыны". Калі вы хочаце яе атрымліваць - напішэце нам на адрас *sektar@iname.com*

І "Трэці сэктар", і "Кроніка" - гэта выданьні для вас і пра вас. Гэта вольная трыбуна для прадстаўнікоў трэцяга сэктару ня толькі Гарадзеншчыны, але і ўсёй Беларусі. Вашыя артыкулы, інфармацыйныя паведамленьні, лісты, тэлефанаваньні заўсёды знойдуць адлюстраваньне на нашых старонках. Дык не змарнуйце шанцу сказаць і быць пачутымі!